ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 13 (2644) • Пятніца, 30 сакавіка 1973 года • Цана 8 кап.

«...НАШЫ ПЛАНЫ РЭАЛЬНЫЯ. ІХ ВЫКАНАННЕ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ПРАЦЫ КОЖНАГА З НАС, АД НАШАЙ НАСТОЙЛІВАСЦІ І ЎМЕННЯ, АРГАНІЗАВАНАСЦІ І ДЫСЦЫПЛІНЫ...»

*З Рэзалюцыі XXIV з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза па Справаздачнаму дакладу Цэнтральнага Камітэта КПСС.*



## ВЫСОКІ ГАРТ

Роўна два гады назад, 30 сакавіка 1971 года, Варвара Міхайлаўна Саламаха, перадавая ткачыха Мінскага тонкасуконнага камбіната, заняла дэлегацкае крэсла ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў, дзе пачаў сваю работу гістарычны XXIV з'езд КПСС.

Пасланніца беларускіх камуністаў, яна прыехала на вышэйшы форум, каб разам з іншымі дэлегатамі падвесці вынікі шматграннай работы партыі, абмеркаваць задачы, намеціць шляхі і метады іх вырашэння.

Рашэнні з'езда сталі для Варвары Міхайлаўны Саламахі, яе мільёнаў братоў і сясцёр па класе, усіх савецкіх людзей праграмай жыцця, кіраўніцтвам да дзеяння.

Пра такіх, як Варвара Міхайлаўна, гавораць—людзі высокага гарту. Больш 20 гадоў працуе яна на камбінаце. Не пералічыць, колькі добрых спраў на яе рахунку. Гэта ёй належыць ініцыятыва пераходу на шматстаночнае абслугоўванне, ініцыятыва, якую потым падхапілі яе калегі. Працавітая, чулая, гатовая заўсёды прыйсці на дапамогу таварышу—такой ведаюць яе ў калектыве.

За выдатныя працоўныя поспехі Варвара Міхайлаўна ўдастоена высокага звання Героя Сацыялістычнай Працы.

## ПЛЕНУМ ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ СССР

Камуністычная партыя пастаянна клапоціцца аб духоўным росце савецкіх людзей, аб тым, як фарміруюцца, умацоўваюцца новыя, камуністычныя адносіны паміж людзьмі. Савецкія пісьменнікі ў сваёй дзейнасці зыходзяць з рашэнняў XXIV з'езда КПСС, які падкрэсліў, што «...чым цясней сувязь мастака з усім шматгранным жыццём савецкага народа, тым больш правільны шлях да творчых дасягненняў і ўдач».

Роля савецкай літаратуры ў камуністычным выхаванні працоўных, задачы пісьменнікаў у адлюстраванні нашай рэчаіснасці, паказе размаху камуністычнага будаўніцтва абмяркоўваліся на IV пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, які працаваў у Маскве, у Цэнтральным доме літаратараў імя А. А. Фадзеева.

З дакладам «Пісьменнік і пяцігодка» выступіў першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Г. М. Маркаў.

Па пытанню, якое абмяркоўвалася, адбыліся спрэчкі.

Ад Саюза пісьменнікаў БССР у рабоце пленума ўдзельнічалі Максім Танк, Іван Шамякін, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Іван Навуменка, Васіль Быкаў.

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За шматгадовую плённую педагагічную дзейнасць у рэспубліцы, вялікія заслугі ў развіцці беларускага савецкага выяўленчага мастацтва і ў сувязі з дзевяностагоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў загадчыка кафедры скульптуры Ленінградскага інстытута жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Я. Рэпіна прафесара Керзіна Міхаіла Аркадзевіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## ДЛЯ ГРУЗІНСКАГА ТЭЛЕБАЧАННЯ

На Віцебшчыне закончыла работу творчая група Грузінскага тэлебачання. Група здымала фільм аб сынах Грузіі, якія ваявалі ў атрадах беларускіх партызан.

У здымках удзельнічалі былы камандзір партызанскай брыгады імя Каroткіна Уладзімір Талаквадзе і былы камандзір узвода разведкі Рыгор Вахтангадзе.

Шмат цікавых эпізодаў будучага фільма знята ва Ушацкім раёне. Стваральнікі фільма наведалі музей у гарадскім пасёлку Ушачы, пабывалі на месцы славутага партызанскага прарыву фашысцкай блакады ў раёне вёскі Паперына, дзе зараз узводзіцца мемарыяльны комплекс.

**А. ПАЛОНСКІ.**

*НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ*



Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паказаў камедыю «Безыменная зорка» па п'есе румынскага драматурга М. Себасцьяна (пераклад на беларускую мову А. Вярцінскага). Паставіў спектакль А. Андросік, мастацкае афармленне Б. Герлавана, музыку напісаў А. Янчанка

На здымку — сцэна са спектакля. У ролі Невядомай — заслужаная артыстка БССР М. Захарэвіч, Настаўніка — артыст Ф. Варанецкі.

Фота Ул. КРУКА.

## УЗНАГАРОДЫ—ТВОРАМ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА

*Міністэрства культуры БССР, Беларускі рэспубліканскі савет прафсаюзаў, ЦК ЛКСМБ, Саюз мастакоў БССР, Упраўленне мастацкай прамысловасці Міністэрства мясцовай прамысловасці БССР падвялі вынікі Рэспубліканскай выстаўкі-конкурсу работ народнай творчасці, прысвечанай 50-годдзю ўтварэння СССР.*

*На выстаўцы былі шырока прадстаўлены ўсе віды і жанры народнай і самадзейнай мастацкай творчасці. Асаблівае месца занялі творы на гісторыка-рэвалюцыйную і героіка - патрыятычную тэмы, тэмы непарушнага адзінства і дружбы народаў нашай шматнацыянальнай Радзімы.*

*Многія работы набыты абласнымі і рэспубліканскімі музеямі, дамамі народнай творчасці.*

*Аўтары шэрагу твораў узнагароджаны дыпломамі і грашовымі прэміямі.*

## НА ЛЕПШУЮ КНІГУ АБ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫМ РЭАЛІЗМЕ

**У адпаведнасці з пастановай ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы» і рашэннем другога пленума праўлення Саюза пісьменнікаў СССР сакратарыят праўлення СП СССР і Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў СССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю пастанавілі правесці ў 1973 годзе творчы конкурс на лепшую кнігу аб сацыялістычным рэалізме.**

Мэта конкурсу — актывізаваць творчыя намаганні крытыкаў і літаратуразнаўцаў на ствярэнне навукова-папулярных прац, прысвечаных актуальным праблемам сацыялістычнага рэалізму ў мастацкай літаратуры і літаратурнай крытыцы.

Паводле ўмоў конкурсу кніга аб сацыялістычным рэалізме павінна даць агульную яго характарыстыку як творчага метаду, выявіць новыя рысы ў яго развіцці, разгледзець тэарэтычныя пытанні ў арганічнай сувязі з практыкай шматнацыянальнай савецкай літаратуры, актыўна садзейнічаць барацьбе за прынцыпы партыйнасці і народнасці мастацтва, барацьбе супраць буржуазнай ідэалогіі і эстэтыкі, рэвізіянісцкіх канцэпцый.

Стварыць такую кнігу, адрасаваную самым шырокім колам чытачоў, патрэба ў якой адчуваецца ўсё больш востра і востра, — задача ва ўсіх адносінах ганаровая і творча прывабная.

Устаноўлены наступныя прэміі: адна першая — 1000 рублёў, адна другая — 500 рублёў і дзве трэція па 300 рублёў. Прэміраваныя рукапісы будуць выдадзены павялічаным тыражом з аплатай па вышэйшых стаўках.

Ва ўмовах конкурсу падкрэсліваецца, што да разгляду прымаюцца толькі новыя, спецыяльна напісаныя работы. Аб'ём іх не павінен перавышаць шасці аўтарскіх аркушаў (150 старонак машынапіснага тэксту). Рукапісы прадстаўляюцца ў трох экземплярах, пад дэвізамі. Прозвішча аўтара паведамляецца ў заклееным канверце, прыкладзеным да рукапісу. Тэрмін здачы — 30 снежня 1973 года. Вынікі конкурсу будуць падведзены 5 мая 1974 года.

Зацверджаны склад журы. У яго ўвайшлі: М. Пархоменка (старшыня), А. Пузікаў (нам. старшыні), С. Іваньно, Д. Маркаў, А. Метчанка, А. Мяснікоў, Л. Навічэнка, В. Озераў, Ю. Сураўцаў, Б. Сучкоў, М. Храпчанка, І. Вінакураў (адказны сакратар).

## *НОВАЕ Ў МУЗЕІ БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ*

**«Чалавецтву ёсць над чым працаваць, хай ніколі не паўторыцца 22 чэрвеня 1941 года». Гэтыя словы доктара медыцынскіх навук М. Я. Яхантава, былога абаронцы Брэсцкай крэпасці — пад яго партрэтам у зале музея крэпасці - героя.**

**«У памяці народнай» — так названа новая экспазіцыя дзесятай залы музея. У ім сабраны матэрыялы пра абаронцаў Брэста, якія ў нашы дні працуюць у розных кутках краіны.**

**Брыгадзір праходчыкаў шахты горада Арцёма — А. Ішкоў, служыць у Брэсце афіцэр П. Кацельнікаў, у валгаградскай бальніцы працуе кандыдат медыцынскіх навук В. Шчаглоў, адзін з самых маладых абаронцаў крэпасці П. Клыпа — токар завода ў Бранску, доктар навук В. Фурсаў займаецца праблемамі біялогіі ў Казахстане, узначальвае калгас на Віцебшчыне А. Чувікаў.**

**Новымі экспанатамі папоўнена І зала Перамогі. Тут новыя кнігі аб крэпасці, карціны мастакоў, падарункі працоўных пятнаццаці брацкіх рэспублік, дасланыя сюды ў год залатога юбілею СССР, памятныя сувеніры. На стэндах — жменькі зямлі з Марсава поля ў Ленінградзе, з Рыжскіх могілак, дзе пахаваны латышскія стралкі, з Байканура, з Валгаграда...**

Абедзве залы па-сучаснаму аформлены—лаканічна і сціпла—брэсцкім мастаком І. Фяцісавым.

— У гэтым годзе будзем ствараць новую экспазіцыю, — расказвае намеснік дырэктара музея Л. Кісялёва. — Пакажам асабістыя рэчы, дакументы юнакоў, якія пачалі вайсковую службу ў Брэсце ў чэрвені 1941-га.

І КРАСАВІКА — ДЗЕНЬ ГЕОЛАГА

## СОНЦУ І ВЕТРУ БРАТ...

*На пытанні карэспандэнта «Літаратуры і мастацтва» адказвае начальнік Упраўлення геалогіі пры Савеце Міністраў БССР П. А. ЛЕАНОВІЧ*



Мы не выпадкова вынеслі ў загаловак гэтага інтэрв'ю словы з папулярнай песні Аляксандры Пахмутавай «Геолагі».

Геолаг. Толькі вымавіш гэтае слова, і ў тваім уяўленні паўстае рамантычны вобраз барадатага чалавека ў штармоўцы і высокіх ботах, з рукзаком за плячыма, з геалагічным малатком у руках. Ён ідзе па лясах, па гарах, шукаючы золата і вугаль, нафту і жалезную руду. Нішто не можа яго спыніць — ні траскучы мароз, ні камары, ні паводка, ні вывяржэнне вулкана. Ён...

Але стоп. Мы, здаецца, пачынаем пераказваць змест адразу некалькіх фільмаў пра геолагаў.

— У жыцці ўсё прасцей і, разам з тым, больш складана, — заўважае Павел Антонавіч Леановіч. — Калі б у мяне спыталі, што, на маю думку, перш за ўсё характарызуе прафесію геолага, я б адказаў: «Так, хапае і рамантыкі, але галоўнае, гэта цяжкая праца і вялікая адказнасць».

Адзначу, што беларускім геолагам даводзіцца намнога цяжэй, чым іх калегам, якія вядуць разведку нетраў, скажам, у горных раёнах. Там, у гарах, усё на віду. У нашай раўніннай рэспубліцы трэба валодаць вялікай інтуіцыяй, нават фантазіяй (пра веды я не кажу, гэта само сабой зразумела), каб адшукаць падземны скарб.

Наш асноўны метад пошуку — бурэнне. Але ж трэба ведаць, дзе і як бурыць, — работа гэта працаёмкая, не танная і кожны промах б'е па дзяржаўнай кішэні і, вядома, па прэстыжы геолагаў. Уявіце, якая адказнасць кладзецца на іх плечы, калі яны кажуць: «Бурыце, тут павінен быць вугаль»...

Вы, мабыць, памятаеце даволі драматычную гісторыю пошукаў нафты ў нашай рэспубліцы? Большасць беларускіх геолагаў была ўпэўнена, што ў нашых нетрах павінна быць нафта, гэта паказвалі аб'ектыўныя дадзеныя. Але спачатку пошукі нічога суцяшальнага не давалі. Знайшліся людзі, у тым ліку і сярод некаторых вучоных спецыялістаў, якія гаварылі, што шукаць нафту ў Беларусі — толькі пераводзіць сродкі. І калі ў 1964 годзе пад Рэчыцай забіў першы нафтавы фантан, той-сёй абвінаваціў геолагаў у тым, што яны туды... папярэдне запампавалі нафту...

Зараз у нас даюць прамысловую нафту Рэчыцкае, Асташкавіцкае, Давыдаўскае, Вішанскае месцанараджэнні. Здабыты мільёны тон...

— Павел Антонавіч, год-два назад у друку паявіліся трывожныя сігналы аб тым, што пошук новых месцанараджэнняў нафты адстае ад тэмпаў яе здабычы.

— Сапраўды, два з паловай гады мы не давалі прыросту запасаў нафты. Справа ў тым, што асноўныя сродкі былі сканцэнтраваны на разведцы існуючых месцанараджэнняў. Зараз гэтая тэндэнцыя выпраўлена. Апошнім часам выяўлены шэсць новых даволі буйных падземных кладовак нафты.

— Якія каштоўныя выкапні знойдзены ў рэспубліцы ў апошні час?

— Пад Карэлічамі выяўлена буйнае месцанараджэнне жалезных руд з добрым утрыманнем жалеза і іншых кампанентаў. К канцу гэтага года мы перададзім для прамысловай распрацоўкі вялікае — недзе каля 60 мільёнаў тон — месцанараджэнне каменнага вугалю. Знойдзены каштоўныя рэдкія і рассеяныя элементы...

Наша вялікае багацце — мінеральныя солі. На базе Салігорскага месцанараджэння сільвініту ўжо колькі год працуюць тры калійныя камбінаты. Зараз мы рыхтуем для перадачы прамыслоўцам вельмі буйное Петрыкаўскае месцанараджэнне сільвініту, дзе горнатэхнічныя ўмовы для распрацоўкі яшчэ лепшыя, чым у Салігорску.

Вялікая работа вядзецца па пошуку будаўнічых матэрыялаў — гліны, пяску, камня і г. д. Штогод мы адкрываем 80—100 месцанараджэнняў гэтых матэрыялаў. У канцы мінулага года былі разведаны багатыя залежы мергеля, які ідзе на выраб цэменту, у Касцюковіцкім раёне. Нядаўна каля Лукомля выяўлена вельмі якасная гліна. Тут плануецца будаўніцтва керамзітавага завода. Знойдзена гліна і ў раёне Мінска, паблізу вёскі Гайдукоўкі. Гэта дасць магчымасць двум мінскім цагельным заводам, якія ўжо збіраліся закрываць з-за адсутнасці сыравіны, працягваць сваю работу яшчэ многія гады.

Наша зямля багатая на мінеральную ваду. Шырокім попытам у рэспубліцы і за яе межамі карыстаецца мінеральная лекавая вада «Беларуская». Значныя запасы яе адкрыты ў самім Мінску, у Крыніцах, Лётцах, Бабруйску, Рагачове. Вада з вялікай канцэнтрацыяй мінеральных солей выяўлена ў Лепелі. Пад Ельскам геолагі знайшлі тэрмальную серавадародную ваду тыпу «Мацэста».

— Відаць пошукі зямных скарбаў патрабуюць калектыўных намаганняў, сучаснай тэхнікі...

— Так, у нас на ўзбраенні самая дасканалая тэхніка. Разумееце, вельмі складана не толькі знайсці падземны скарб, але падлічыць яго запасы. Ад правільнага падліку залежыць прамысловая распрацоўка. Так што даводзіцца рабіць вельмі складаныя разлікі. Пры ўпраўленні створаны вылічальны цэнтр з ЭВМ «Мінск-32». У будучым годзе атрымаем яшчэ адну электронна-вылічальную машыну.

— Геолага-пошукавыя работы даводзіцца праводзіць, відаць, і на калгаснай зямлі, і сярод палёў-лясоў, — як усё гэта стасуецца з зямельным законам, законам аб ахове прыроды?

— Мы прыкладаем усе намаганні, каб не парушаць гэтыя законы. За ўсе патравы, высечкі лесу — спаўна плоцім. Наогул работа геолага-пошукавых партый спланавана так, каб не рабіць урону прыродзе.

— І апошняе пытанне, Павел Антонавіч. Паслязаўтра краіна адзначае Дзень геолага. Якая яна, армія геолагаў нашай рэспублікі?

— Каля дзесяці тысяч чалавек. Гэта, вядома, не толькі «чыстыя» геолагі. Сярод іх людзі розных спецыяльнасцей — петрографы, хімікі, бурыльшчыкі, геафізікі і інш. У нас шмат выдатных майстроў сваёй справы, удастоеных высокіх урадавых узнагарод. Сярод іх буравы майстар Герой Сацыялістычнай Працы М. Руткоўскі, бурыльшчык П. Шмурадка, буравы майстар Э. Халімоненка, геолагі М. Качкалда, А. Цімчук, Г. Салаўёў і інш.

Да пяцідзесяцігоддзя ўтварэння СССР калектыў Мазырскай канторы разведвальнага бурэння быў узнагароджаны юбілейным Ганаровым знакам ЦК КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Савета Міністраў СССР і ВЦСПС, а кантора выпрабавання разведвальных свідравін трэста «Белнафтагазразведка» — юбілей- Ганаровай граматай ЦК КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў Беларускай ССР і Белсаўпрофа. Гэтыя ўзнагароды да многага абавязваюць.

## ПА СТАРОНКАХ ЧАСОПІСА «ПОЛЫМЯ»

ных нарадах, у спрэчках і гутарках з тымі, хто вырошчвае хлеб. Ён прысвечаны людзям калгаснай зямлі, якія ў час гутарак, сустрэч, шчодра «падказваюць» аўтару сюжэтныя хады і жыццёвыя калізіі, дзеляцца з ім самым запаветным і дарагім.

Добра, што нарысіст выводзіць на першы план не толькі свае погляды на шматлікія праблемы сельскай гаспадаркі, а перш за ўсё клопаты, трывогі і радасці непасрэдных удзельнікаў і арганізатараў пераўтварэння вёскі. Аб тым, як чуйна адносіцца аўтар да ўнутранага свету людзей працы, да іх інтарэсаў і запатрабаванняў, сведчаць такія раздзелы, як «З цёткаю Полькаю па дарозе на ферму», «Полудзень з Ганнай Кухарэнкай», «Паўдня ў Камаровай хаце» і інш. Па іх можна меркаваць, што нарысіст умее даходліва паказаць духоўныя гарызонты і высокі інтэлектуальны ўзровень працаўнікоў вёскі, сілу калгаснай дэмакратыі.

У нарысе ёсць і шмат іншых станоўчых якасцей. Чытаеш інтымнасяброўскія размовы аўтара з людзьмі і адчуваеш, як з прыватных, але цікавых і павучальных сустрэч паступова складваецца малюнак змястоўнага жыцця калгаса, а з мазаікі ўражанняў і сцэн непрыкметна ствараецца працоўны воблік вёскі, таго новага, што няўхільна перамагае ў калгасным жыцці.

Нарыс прыцягвае да сябе праблемнай насычанасцю, лірычнай усхваляванасцю і цеплынёй чалавечай увагі да самых разнастайных спраў калгаса. У ім ёсць спробы сур'ёзных сацыялагічных даследаванняў. Доказам гэтага можа быць хоць бы кантраснае супастаўленне малюнкаў сённяшняга жыцця і ўспамінаў аб нягодах вясковага дзяцінства, якія захаваліся ў памяці пісьменніка, старшыні калгаса, людзей старэйшага пакалення. Усё гэта больш выразна адцяняе глыбокія змены ва ўсіх сферах матэрыяльнага і духоўнага жыцця вёскі.

Але нельга не папракнуць аўтара. Нарысу ўсё ж бракуе сапраўднай наступальнасці, многія гаспадарчыя праблемы не знаходзяць прынцыповага вырашэння, а фактаграфічная інфармацыя, падарожныя нататкі не заўсёды падмацоўваюцца па-мастацку пераканаўчымі характарамі. Так, вобраз самога старшыні калгаса Г. М. Шведава, камуніста, важака мас, намаляваны невыразна. Толькі названы, але не паказаны яго працавітасць і народная мудрасць, мужнасць і арганізатарскі талент.

Цікавымі маглі б атрымацца і іншыя вобразы вяскоўцаў. Але чамусьці пра агранома Васькоўскага, якога ў гэты час прынялі ў партыю, упамінаецца толькі мімаходзь. Вельмі мала гаворыцца пра камуністаў калгаса. Толькі ў тэлефоннай размове выпадкова названа імя сакратара партарганізацыі калгаса Ярковіча. І ў той жа час вядуцца працяглыя, і «глыбакадумныя» развагі пра дробязныя праблемы, як: каго пасланы у пастухі, каму даручыць пасвіць статак — двум ці тром чалавекам, чаму коні перасталі баяцца машын і інш.

Як ні шкада нам, але падсумоўваючы сказанае, усё ж трэба адзначыць, што вялікі «цуд на зямлі — нараджэнне хлеба», раскрыты ў нарысе толькі часткова. Нарыс атрымаўся празмерна расцягнуты і абцяжараны непатрэбнымі падрабязнасцямі і стылістычнай квяцістасцю, «рыхлы». У ім празмерна адчуваецца неапраўданае нястрымана-сентыментальнае замілаванне пры апісанні вясковага жыцця, незразумелы сум па ўсяму старому.

Разам з тым хацелася б адзначыць саму прыкметную своеасаблівасць манеры нарысіста, у якой спалучаюцца аб'ектыўная, спакойная апавядальная інтанацыя з лірыка-публіцыстычнымі адступленнямі.

Калі весці гаворку аб недастатковым выкарыстанні магчымасцей нарысовага жанру, то ў першую чаргу трэба падкрэсліць той факт, што некаторыя аўтары, арыентуючыся галоўным чынам на выяўленчыя, пазнаваўча-апісальныя і этнаграфічныя якасці нарыса, мала звяртаюць увагі на яго аналітычныя, даследчыя актыўныя пачаткі і асабліва не дбаюць аб сваёй публіцыстычнай узброенасці, аб авалоданні методыкай паглыбленага аналізу. Тады і пішацца ўзнёсла-захоплена, але бяздоказна, непераканальна, некваліфікавана, без грунтоўнага вывучэння спраў на месцы.

Асабліва прыкметна гэта ў так званых падарожжах у родныя мясціны. Самі па сабе такія падарожныя расказы здольны ўмясціць і сур'ёзны канфлікт, і маральны пошук, і праблематычнае асэнсаванне жыцця. Але нарысісты, карыстаючыся падарожнымі матывамі, часцяком дэманструюць нам сваю цягу да бесканфліктнасці, зводзяць свае спробы паказу глыбокіх перажыванняў да непазбежнай у такіх выпадках паспешлівай узнёсласці і халаднаватай рытарычнасці.

Прыемна адзначыць, што гэтых недахопаў у значнай ступені здолеў пазбегнуць М. Вышынскі ў сваім нарысе «Па вясну», надрукаваным у апошнім, трэцім, нумары «Полымя» за 1973 год. Яго хвалюючая сустрэ-

(Заканчэнне на стар. 15)

## З ПАЧУЦЦЁМ ШЧЫРАСЦІ

Новы зборнік Станіслава Шушкевіча адкрываецца нізкай вершаў, прысвечаных У. І. Леніну («Вясна ў Шушанскім», «Жураўліная горка», «Хмель», «Вобыск у Леніна», «На парaходзе»). Вершы невялікія, але яны светлыя, бадзёрыя па настрою, напісаны з удзячнасцю да правадыра, з любоўю да тых месц, дзе «ленінскі стомлены след ні дажджы, ні завеі не сцерлі, не знеслі». Прыўзнята гучыць і верш пра дом Першага з'езда РСДРП, адкуль «эпоха новая размашыстым пяром старонку першую... смела напісала».

Вершы С. Шушкевіча поўныя грамадзянскага напалу. Паэт славіць сцяг, што «сонцам ленінскім палае ў вачах», і тых, хто заўсёды заставаўся адданым гэтаму сцягу. Шмат вершаў прысвяціў ён памяці герояў, якія загінулі на палях бітваў Вялікай Айчыннай вайны.

Вас чакаў я з-пад Волгі,
Дуная і Одэра,
Я чакаў вас, як птушак
з далёкага выраю.
У музеях ляжаць
пасмяротныя новыя ордэны,
Не адною услаўлены шчыраю
лiраю.
(«Сябрам»)

У сэрцы паэта, як і ў сэрцы кожнага савецкага чалавека, назаўсёды прапісаны імёны абаронцаў Радзімы.

Звяртаючыся да званоў Хатыні, С. Шушкевіч заклікае:

Званіце трывожна, балюча,
Ад спаленых сэрцаў і хат,
Ад тых, каго дротам
калючым
Вязаў перад допытам кат.
(«Званіце, званы у Хатыні»)

Гэты звон патрэбен для таго, каб будзіць жывую памяць, каб яна ніколі не згасла.

Каб вечнымі былі нянавісць,
мужны гнеў
Да катаў, прайдзісветаў,
вылюдкаў, забойцаў,
Каб зрок ніколі ясны
не мутнеў
І над зямлёй свяціла ярка
сонца.
(«У пералесках буйная
расла трава...»)

Грамадзянская пазіцыя паэта яскрава акрэслена. Сваім гарачым словам ён хоча наблізіць час, «калі будуць назаўсёды забытыя войны, калі непатрэбныя стануць гарматы і бомбы». Вершы «Званіце, званы ў Хатыні», «Не маўчыце, курганы-магілы», «Сумую па лясах, па залатых дубровах...», «У пералесках буйная расла трава...» і іншыя гучаць, як «словы праўды неўміручай», як выказванне «голасу народнай святыні» для таго, каб «з попелу сэрцы нявінных пачуў, зразумеў чалавек».

С. Шушкевіч ведае цану паэтычнага радка. І хоць ён прызнаецца, што «для песні падабраць не лёгка слова», але ўпарта шукае яго, і ў большасці выпадкаў пошукі прыносяць добры плён. Паэту ўдаецца знайсці новыя запамінальныя вобразы. Напрыклад, кожны з нас заслухоўваўся і захапляўся песняй жаўрука ў вясновым небе, але, бадай, ніхто так не асэнсаваў убачанае, як паэт: «Жаўрук шугаў уверх па сонечных праменнях», «Здавалася, ён крыльцамі лавіў праменні».

Аўтар імкнецца да таго, каб карціны, намаляваныя ім, успрымаліся адразу, каб яны адпавядалі жывой рэчаіснасці:

Кілімы снежныя развесіла
зіма,
Іх хараство не выказаць мне
прозай...
Падняўся чуб на ёлачцы
стырчма,
З-пад хусткі белай
прыглядаецца бяроза.
(«Кілімы снежныя
развесіла зіма»...)

Вершы С. Шушкевіча вельмі натуральныя. Паэт пазбягае неапраўданай мудрагелістасці і ўскладнёнасці. У гэтым яму дапамагаюць традыцыі вуснай народнай творчасці, якімі ён шырока карыстаецца.

Значны адбітак на вершы С. Шушкевіча паклалі жыццёвыя шляхі паэта. У яго радках адчуваецца роздум сталага чалавека. У той жа час радок паэта па-маладому звонкі, чысты. Гэта тлумачыцца той душэўнасцю і добразычлівасцю, з якімі выказаны думкі і назіранні.

Канечне, у зборніку ёсць і такія-сякія выдаткі. Але яны— не галоўнае. Асноўнае, што С. Шушкевіч па-ранейшаму ў вялікай творчай дарозе.

**Ц. ЛІЯКУМОВІЧ.**

С. Шушкевіч. «Сябрам». Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1972.

# «НЕ ПІШУ БОЛЬШ ГУМАРЭСАК...»

ў заўкоме пуцёўку на Чорнае мора... А паколькі ў раёне быў толькі адзін сапраўдны баксёр з быткамбіната «Добрых паслуг» Ісак Абрамкін, то ён і заняў першае месца. А другое дасталося... накаўтаванаму Пудоўкіну.

Да цікавых варта аднесці таксама гумарэскі «Грэхападзенне» (пра папоўскую сквапнасць), апавяданне «Кнопачка» (пра людскую спагаду і чуласць) і яшчэ некалькі. Ну, а іншыя? На жаль, сатырыка - гумарыстычны ўзровень астатніх пакідае жадаць лепшага. І справа не ў тым, што аўтар нявопытны ў галіне гэтага нялёгкага жанру— якраз ён тут не навічок. Нельга таксама сцвярджаць, што ён у сваёй творчасці кранае «не тыя» тэмы. Тыя. Аднак, як кажуць, ідзе па працярэбленай другімі сатырыкамі і гумарыстамі сцяжынцы, не шукае свайго падыходу да распрацоўкі матэрыялу. Перагортваеш старонкі зборніка і з засмучэннем канстатуеш: недзе чытаў. І гэта, і гэта... Здзіўляюча знаёмыя сюжэты, канфлікты, вобразы. І тут ужо не ратуюць твор ніякі гладкапіс, ніякія смешныя слоўцы і выразы, многія з якіх, дарэчы, таксама запазычаны з таго ж «літпракату» (так, калі начальніцкі партфель — то «з кракадзілавай скуры», калі адмоўны тып — то «рабаціністы хлопец», а калі вусы — то ўжо абавязкова «тараканавы», як і абавязковая лысіна ў начальніка).

Колькі мы ўжо чыталі гумарэсак пра нядбайных, нават гультаяватых калгаснікаў, для якіх на першым плане не грамадскія інтарэсы, а асабістыя. І пра іх, вядома, трэба гаварыць, трэба пісаць. Толькі ж ці варта паўтараць іншых аўтараў, так, як гэта робіць І. Аношкін у гумарэсцы «Кляновая кладка?» Нядобрасумленны Антось у яго, як дзве кропелькі, падобны на сваіх літаратурных папярэднікаў: ён не ідзе на працу па загаду брыгадзіркі Марылі, а шыбуе ў лес па грыбы, бо грыбы—жывая капейчына. І тыя ж трафарэтныя прымітыўныя разважанні ў Антося, як у ягоных папярэднікаў: «Прысільвала (брыгадзірка.—**Я. К.**) і Антося салому сціртаваць, ледзь адпрасіўся. І чаго чэпіцца, мінімуму ёй мала? Фельчар спагадлівы чалавек, зрабіў паслабленне. А Марыля на рэцэпты глядзець не хоча. Дваццаць гадоў да пенсіі, кажа, у самым росквіце мужчына, карак ажно льсніцца. Быццам не бывае такога, што і маладыя хварэюць».

Не спрабуе аўтар знайсці нейкай большменш арыгінальнай канцоўкі гумарэскі. Як не цяжка адразу здагадацца, брыгадзірка Марыля павінна ўсё ж такі злавіць свайго нядбайнага работніка. І — ловіць. Праўда, для гэтага аўтару неабходна было, каб Антось зваліўся з кляновай кладкі ў рэчку. Толькі і такі аўтарскі пасаж не ратуе твора. Па-рэзанёрску гучаць апошнія Марыліны словы: «Ступай, сушыся... Вечарам на праўленні будзе лазня, каб помніў да новых венікаў».

Бачыце, адразу ж, неадкладна, вечарам (так хоча аўтар) склікаецца нават спецыяльнае пасяджэнне праўлення, каб пакараць Антося, нібыта ўжо больш важных спраў і няма ў калгаснікаў, нібыта не існуюць іншыя сродкі ўздзеяння.

Наўрад ці выкліча ў чытача пажаданы рэзананс гумарэска І. Аношкіна «Кляновая кладка». Схематызм, пэўная зададзенасць, павярхоўнасць ніколі не былі карыснымі спадарожнікамі пісьменніка.

Не вызначаюцца арыгінальнасцю задумы і яе вырашэннем таксама гумарэскі, сатырычныя замалёўкі «Масляк у марынадзе», «Міколаў курорт», «Татава ёлачка».

Чытаючы зборнік «Брантазаўр», міжволі звяртаеш увагу і на іншыя хібы, уласцівыя не толькі гэтаму пісьменніку, але і шэрагу маладых гумарыстаў і сатырыкаў. Так, часам аўтар імкнецца перш за ўсё пасмяшыць чытача, хай нават адсутнічае ў творы глыбіня думкі... Але смех — не самамэта. Бо не можа быць сапраўднага гумару без сур'ёзнага зместу. Чытаеш, напрыклад, гумарэску «Чырвоная шапачка», і цяжка зразумець, што ж хацеў сказаць у ёй аўтар. Малады хлопец Сцяпан сустрэўся выпадкова з дзяўчынай, закахаўся ў яе і стаў разважаць аб каханні з першага погляду. Ды раптам зайшоў у магазін, дзе працуе тая дзяўчына, а яна ні з таго, ні з сяго, усчала з ім лаянку з-за кнігі скаргаў, якую, дарэчы, той нават і не прасіў... У наяўнасці — штучнае непаразуменне, якое ўнутрана аніяк не апраўдана. Урэшце-рэшт, Сцяпан расчараваны ў сваёй абранніцы, мы—у аўтары.

Тым жа дробнатэм'ем вылучаюцца гумарэскі «Качка», «Падарунак» і іншыя. Але ўжо ў апавяданні «Характарыстыка» — увогуле з добрай задумай выкрыць, высмеяць тых, хто перашкаджае ўкараненню навуковасці ў вядзенні гаспадаркі, — іншая крайнасць: надуманасць сюжэта. Вобраз Зміцёркі Вераб'я, якога толькі што «назначылі» (!) пасля дзесяцігодкі ў саўгас «Вольная праца» пастухом, атрымаўся настолькі штучным, нежыццёвым, што так і карціць яго параўнаць з нейкім казачным героем, якому, нягледзячы на нявопытнасць і малады ўзрост, усё па плячы. Ды вось які ён, Зміцёрка: «Доўгай пяньковай пугай ляскае, на трубе берасцянцы іграе», брыгадзіра крытыкуе (не прывозіць «солі пашу падсольваць»), і заатэхніка павучае (не ўводзіць штучнае асемяненне ў саўгасе), і старшыню адразу ж ставіць на месца (прапясочвае па радыё за безгаспадарчасць). Карацей кажучы, нават маючы на ўвазе гратэскную форму апавядання, цяжка ўявіць такі стан спраў у сучаснай гаспадарцы і такую «ўсемагутнасць» школьніка.

І. Аношкін, мяркуючы па яго лепшых гумарэсках, якія друкаваліся раней у нашым друку, якія ўвайшлі ў гэты зборнік, аўтар, бясспрэчна, здольны. Аднак не цяжка заўважыць адзін прыкры недахоп у яго творчай рабоце: спешка... Гэта адчуваецца ў многіх, увогуле неблагіх гумарэсках — іх псуюць непрадуманыя канцоўкі. Валодаючы пэўнай тэхнікай пісьма, І. Аношкін хутка асвойвае тэмы. Але менавіта такая «бойкасць» і прыводзіць да зніжэння гумарыстычнага і сатырычнага ўзроўню твораў. Хочацца шчыра пажадаць аўтару, каб ён, працуючы ў адным з самых гарачых цэхаў нашай літаратуры — сатырычным, працаваў з большай патрабавальнасцю да сябе і ставіўся з большай строгасцю да таго, што выходзіць з-пад яго пяра.

**Я. КАРШУКОЎ.**

Кайсын КУЛІЕЎ

## ПРОДКІ МАЕ

Горац, з кінжалам за стол я не сяду,
Меч не бяру я ў паходы свае.
Але мяне не судзіце за здраду,
Продкі мае,
Продкі мае!

Я не пяю, а пішу на паперы,
Маю касцюм з гарадскога сукна,
Але без вашай адвагі і веры,
Грош мне цана,
Грош мне цана!

Мне папярэднікаў рысы ўласцівы,
Так, абліваючыся крывёй,
Не пакідалі сваіх, а ішлі вы
Смела на бой,
Смела на бой.

Я пакараюся велічнай сіле
Песень мінулых, што сёння чутны.
Продак мой, прадзед мой, нас нарадзілі
Горы адны,
Горы адны.

Бачу, калі набліжаецца бура,
Бачу, як часам прысніцца бяда:
Разам мы скачам, і льецца па бурках
Нашых вада,
Льецца вада.

Шмат я блукаў па чужых вам краінах,
А як вяртаўся, то вуснамі зноў,
Вуснамі зноў прыпадаў да айчынных
Я камянёў,
Да камянёў!

Горац, з кінжалам за стол я не сяду,
Меч не вазьму я ў паходы свае,
Але мяне не судзіце за здраду,
Продкі мае,
Продкі мае!

## КІНЖАЛ

Служыў, з адменнай куты сталі,
Дабру і злу ты ўсе вякі,
За што цябе і бласлаўлялі
І праклiналі мацяркі.

Знішчаў ты ворага сабою,
Але і сына родных скал
Ты забіваў рукой ліхою,
Рукой ганебнай нападаў.

Аулы помняць пахаванне
Сыноў, якіх ты загубіў, —
І ты па самае дзяржанне
Да трун іх прыналежны быў.

З табой, як звера палявалі,
Хадзіў мой бацька, і табой
Забіт мой брат на перавале...
Ты — сябра мой, ты — вораг мой.

Не асуджай мае пачуцці,
А зразумей, калі кляну, —
Герой цаляў табой у грудзі,
А баязлівец — у спіну.

Сумленню чыстаму адкрыта
Сталь гартаваная, а ў ёй
То сонца светлае адбіта,
То цёмра цемрыцца крывёй.

То славу, то няславу множыў
Ты сам, залежна ад таго,
Хто ўзняў цябе, дастаўшы з ножнаў.
І забіваў табой каго.

Ты бедны быў, але, чаканны,
Жахаў няхітрай прастатой,
Насечкай іншы раз убраны
Ты быў і вяззю залатой.

Але жадаў аздоб адзіных
Табе твой майстра, твой каваль —
Каб ты суддзёй быў, каб бязвінных
Твая не вынішчала сталь.

Аднак ты не пазбег бясчынства,
Калі цябе ў мінулы час
Няволіла, суддзя злачынства,
Рука злачынная не раз.

Да раўнадушных, з добрай ласкі,
Я не прылічаны даўно.
Ты дораг мне, кінжал каўказскі,
І ненавісны заадно.

## БОЖЫ МЕЧ

Зноў вясёлка. Зноў яна нагадвае
Кроў кізілу, ізумруд травы.
Мора і гару злучыўшы, радуе
Зноў яна сабою свет жывы.

Многафарбная, шматпавярховая,
Свет агнём атулены тваім.
Перавалы пад тваёй аховаю,
Луг вільготны і касцы на ім.

Знак удачы, светлых дзён прарочыца,
Можа, меч ты божы[1], сапраўды.



Кайсын Куліеў і Аркадзь Куляшоў.

Дзецям пачапаць вясёлку хочацца,
Далучыць да шумнай грамады.

Меч вісіць над светам, не гайдаецца,
І дазнацца хочацца малым,
Дзе той меч дзяржаннем пачынаецца,
Дзе лязом канчаецца сваім.

Добры меч, ты нас не страшыш
стратаю,
Ты не здатны помсціць і караць.
Ты здзіўляць умееш нас і радаваць
І слабым надзею падаваць.

У вясёлкі — добрыя зазубіны,
І хоць доўгі век у зброі той,
Ні травінкі ёю не загублена,
І ніхто не падаў перад ёй,

Што за цуд — лязо над нівай роснаю!—
Нічыіх галоў не зносіць з плеч.
Пахавайце, людзі, зброю грозную
І пакіньце толькі гэты меч!

[1] Вясёлка па-балкарску «цейры кылыч», што літаральна азначае: «божы меч».

●

Хвілінай нечаканаю, кароткаю,
Раптоўнаю прыходзіць сум да нас.
Відаць, перад вясенняю паводкаю
Снег на гарах сумуе так якраз.

Сум нечаканы — з'ява ненаўмысная,
Ці не таму сумуюць без прычын
Не толькі людзі — дрэвы шумналістыя,
Сумуе горны снег, трава далін.
А сённяшні мой сум дажджом
туманіцца —
Ён горнай вышынёй паспаны мне,
Ды хутка пройдзе дождж, а сум
застанецца,
Ці будзе ліцца дождж, а сум міне.

Не будзем марнатравіць непаўторныя
З табой хвіліны, вартыя гадоў.
А будзем слухаць дождж з вяршыні
горнае,
Як старажылы горскія, без слоў.

## ПАЭЗІЯ

Паэзія — зямля мая, бывала,
Я ліўнем быў, паіў твае лугі,
Часамі я насоўваўся абвалам
І з гулам да цябе каціў снягі.

Пад сцягам і свяшчэнным і высокім
Я радавым быў арміі тваёй,
Тваім прытокам быў, тваім патокам,
Калі ты мне ўяўлялася ракой.

Не богам, не прарокам богу роўным,
Калі ўвесь свет ахутаў чорны дым,
Забыты ўзнагародай, безназоўным
Тваім пасыльным быў і вартавым.

Язэп КУРАЛІКАЎ

# З ШЫКАТАНСКАГА БЛАКНОТА

## «САМАЯ ДАРАГАЯ ЖАМЧУЖЫНА...»

Пасля двухдзённага тайфуна і дзевяцібальнага шторму з бясконцымі праліўнымі дажджамі адразу ўсталявалася на дзіва добрае надвор'е: сонца прыпякала па-летняму шчодра, і Ціхі на гэты раз быў зусім рахманы, ласкава-стомлены, на люстраной паверхні — ніводнай зморшчынкі. Рэйсавы цеплаходзік з гордым імем «Арлец» спорна ішоў наперад.

— Шыкатан — сапраўдная жамчужына, — ужо ў каторы раз пераконвае мяне, быццам я з ім не згаджаюся, рэдактар мясцовай раённай газеты Аляксей Міхайлавіч Шпакаў. — Колькі там я ні бываю, а на кожным кроку раблю адкрыцці. Хочацца паглядзець альпійскія лугі—калі ласка, нарвежскія фіёрды — да вашых паслуг.

Аляксей Міхайлавіч зноў, мусіць, падумаў, што не пераканаў мяне, бо я не праяўляў асаблівага захаплення намаляванай ім прыгажосцю, і рашыў вылажыць свой апошні козыр.

— А ведаеце, што яшчэ старажытныя айны называлі гэты востраў. Шыкатан у перакладзе азначае: лепшае месца. — Ён важка падняў указальны палец. — А айну — чалавек.

Я, безумоўна, згаджаўся з кожным словам рэдактара, да фанатызму ўлюбёнага ў гэты край, але яму па-ранейшаму здавалася, што ён усё яшчэ не пераканаў мяне.

— Нічога, паглядзіш на свае вочы, не будзеш такім скептыкам...

Ад яго ж, Аляксея Міхайлавіча, я ўжо штокольвечы ведаў пра гэты востраў. Ведаў, што «ва ўсіх Курыльскіх каралях — гэта самая дарагая жамчужына». Востраў сам па сабе невялікі: усяго толькі дваццаць сем кіламетраў у даўжыню і каля дзесяці — у шырыню. Два населеныя пункты — рабочыя пасёлкі Малакурыльск і Крабазаводск. Тут — прамысловы цэнтр па перапрацоўцы сайры.

...Наш «Арлец» упэўнена ўваходзіць у Малакурыльскую бухту, якую надзейна ахоўваюць ад шматлікіх страшных вятроў і штормаў моцныя скалы. Увесь страшэнны ўдар акіяна ў непагадзь яны прымаюць на сябе, аберагаючы параходы, рыбалоўныя сейнеры, баржы і іншы, як кажуць, плаўтранспарт. На прычале поўным ходам ішлі работы: разгружаліся «мэрээскі» — малыя рыбалоўныя сейнеры.

У той жа дзень мы да прыемнай стомленасці і нахадзіліся па дашчаных тратуарах, і налазіліся па камяністых вузенькіх сцяжынках. Пасёлак добраўпарадкаваны: дабротныя адна- і двухпавярховыя дамы, цудоўныя магазіны, дом культуры, кінатэатр, камбінат бытавога абслугоўвання, — словам, нікольki ён не ўступае любому нашаму гарадскому пасёлку.

## МАКСІМ ІВАНАВІЧ

Прайшло не больш гадзіны, як я пазнаёміўся з Максімам Іванавічам Козелам, а мне ўжо здаецца, што гэтага дабрадушнага і скупога на словы чалавека ведаю даўно, не раз сустракаўся з ім. У яго высокі чысты лоб, які прарэзалі глыбокія зморшчыны, вялікія жылістыя рукі працаўніка, шэрыя дапытлівыя вочы, ды, наогул, увесь ён сам, нягледзячы на свае шэсцьдзесят чатыры гады, выглядае маладжавым і бадзёрым.

— З вамі мы яшчэ нагамонімся, часу хопіць у пенсіянера, — гаворыць Максім Іванавіч мне. — І юшкі ціхаакіянскай наварым... — І ўсміхаецца, ды гэтак прыемна і шчыра, гэтак па-хатняму цёпла.

— Юшку Максім Іванавіч варыць адметную.— Мой «экскурсавод» Аляксей Міхайлавіч падміргвае весела, па-змоўніцку. — Шкада, што мне не давядзецца паспытаць...

— Зноў спяшаецеся?

— Такая работа.

Неўзабаве мы сядзім у двары за столікам, любоўна збітым з добра абгабляваных дошак, у цяню ад дома. Адсюль відаць невялікая вулачка — яна прыляпілася ніжэй і бліжэй да берагу. Аднолькавыя двухкватэрныя дамы, агародзікі пры іх, каб толькі пасадзіць крыху бульбы, капусты, агуркоў ды рознага там кропу.

Максім Іванавіч, тутэйшы старажыл, акуратна тушыць акурак аб дно бляшанкі з-пад сайры, незадаволена хмыкае:

— Яно і відаць па газеце, што вы там усе спяшаецеся, быццам вас хто ў шыю гоніць.

Я здзіўлены: чаго яны не падзялілі?

— Гэта вы ўжо, Максім Іванавіч, па нейкай злосці гаворыце, — рэдактар ніякавата, пакрыўджана зірнуў на мяне і нават пачырванеў.

— А ты, Аляксей, не злуй, — спакойна зазначыў гаспадар і закурыў новую цыгарэту. — Давай па-шчырасці. Што ў нас галоўнае? Рыба. Яна — наша багацце. Ну, як напрыклад, у Беларусі бульба... А як часам выкарыстоўваем мы гэтае сваё багацце? Далёка не так, як трэба. З-за безгаспадарчасці дзесяткі цэнтнераў вылаўленай рыбы псуецца. Куды яе потым? На муку... А вы, газетчыкі, бачыце толькі план. А за планам? Не бачыце...

— Але ж і без нашай інфармацыі вам не абысціся, — паспрабаваў перавесці гаворку на жарт Аляксей Міхайлавіч, ды Максім Іванавіч нават і вухам не павёў.

— Вось так яно.—нейк вінавата прамовіў Максім Іванавіч. — Ты прабач мяне, старога...

— Ды за што? — Аляксей Міхайлавіч падняўся з-за століка. — Ну, я пабег...

— Чакай, паабедаем.

— Не-не, сёння трэба назад. Я яшчэ ж на заводзе не быў.

— Ну, як хочаш сабе. — І звярнуўся да мяне: — А вы куды?

— Правяду Аляксея Міхайлавіча.

Мы, не спяшаючыся, спускаліся ўніз, да акіяна. Дашчаны тратуар рыпеў, ляскаў пад нагамі.

— Бачыце, які народ у нас тут? — можа хутчэй сабе, чым мне сказаў Аляксей Міхайлавіч з задавальненнем. — Ах, Максім Іванавіч! Ні адзін мой прыезд не абыходзіцца без заўваг. А вось не магу, цягне да гэтага чалавека. Чаму — і сам не ведаю. — Памаўчаў. — Адзін стары застаўся... Год назад Алену Пятроўну пахаваў. Цяпер у яго ўцеха — сын Павел, унукі. Яны — на мацерыку, на адпачынку, недзе ў Эстоніі, жонка ж Паўла—эстонка. А жывуць эвнь у тым доме з блакітнымі ліштвамі...

Жыццё на востраве — як і ўсюды... Тыя ж клопаты, тыя ж радасці. Толькі для мяне яны пазначаны незвычайнасцю ўмоў, характарам тутэйшай мясцовасці. І кожнае слова Аляксея Міхайлавіча я лаўлю з прагнасцю дапытлівага турыста. Даведваюся, што старэйшы Паўлаў сын Толік закончыў школу, цяпер здае экзамены ў ваенна-марскую акадэмію ў Ленінградзе, дачка Наташа перайшла ў дзесяты клас. Сам Павел працуе шафёрам, а яго Ірына—рыбаўкладчыцай на заводзе. Усе яны, як і сам Максім Іванавіч, кнігалюбы. І ўсе цудоўныя людзі, жыццярадасныя, характарам якраз у свайго дзеда.

— Ну, праводзіць мяне досыць, ідзі назад, а то Максім Іванавіч зачакаецца і зноў усе шышкі будуць на маю галаву,—смяецца Аляксей Міхайлавіч.

Ніколі горкім мне жыццё не стане,
І не памрэ ў жыццё ўлюбёны верш,
Пакуль магу ўставаць я на світанні
І разумець, што ты яшчэ жывеш.

А ты мяне не ад агню і сцюжы
Засцерагай, не ад бяды і слёз —
Ад лёгкай славы і ад раўнадушша,
Каб я табе няславы не прынёс.

●

Хай уцёс, як горы, не праслаўлены,
Безназоўны ён, за векам век
Гордай непаўторнасці пазбаўлены,
Церпіць спёкі гвалт і сцюжы здзек.

Не далі імя яму паселішчы
Горскія, як велічным гарам,
Ды ў сваёй нямой каменнай велічы
Ён вяршыням не зайздросціць сам.

А ручай, каменьчыкі шліфуючы,
У ручве бязведамнай вадой,
Скача, невядомы, крыўд не чуючы,
Сцежкай невядомасці сваёй.

Рэкі па зямлі цякуць выдатныя —
Прагнуць славы на сваіх шляхах,
Назвы іх кафэ першаразрадныя
Носяць у вялікіх гарадах.

Рэкі ёсць славутасці сусветнае,
Ручаі, што варты гучных слоў, —
Але рэчкі, рэчкі непрыкметныя
Носяць лодкі, пояць землякоў.

Друг, не пераймай чужой вядомасці,
На чужы не квапся п'едэстал.
А зайздросны — дык зайздросць ты
скромнасці
Рэк малых і безназоўных скал.

●

Давайце зваць гару гарою
І чарадою чараду,
Плот плотам зваць, даўбню даўбнёю,
Хлеб хлебам і вадой ваду.

Не намі вынайдзена мова.
Прамоўленае ўпершыню
Першаасновай мела слова
Праўдзівы сэнс, а не хлусню.

Сягоння слова — наш пакорны
Слуга, што слухацца прывык,
Але зваць чорнае не чорным
На паварушыцца язык.

Хай палачку сядлаюць дзеці,
Як неслухмянага каня,
Хай скачуць!
Існуе на свеце
Хай толькі гэтая хлусня.

●

Удзячны будзь ты кожнаму шматку
Зямлі, што бачыў на сваім вяку.

Зямлю, як скарб, патрэбна шанаваць,
Яна нам не частунак недарэчны,
А хлеб дае і ўсё, што можа даць, —
Траву і камень і прытулак вечны.

Майстры разца, пяра і тапара
Ляжаць у ёй пад плітамі нямымі,
Ляжаць героі, ўслаўленыя імі,
І коні найслаўтага таўра.

Ляжыць у ёй, там, дзе яна хавае
Усіх, хто смерці скошаны касой,
Прах тых жанчын, чыя краса зямная
Лічылася нябеснаю красой.

Якой бы ні праходзіў ты зямлёю,
Сваёй, чужой, ты так паводзься там,
Нібы пад галькай, дзірваном, травою
Альбо пад каменем ляжыш ты сам.

●

Калі маё сэрца сціскала бяда,
Ішоў я па роднай цясніне,
«Ты боль свой аддай мне»,— казала
вада,
Што з горнай сцякала вяршыні.

Нябёсы казалі: «На неба глядзі,
І сэрца пакіне трывога».
«Цябе не прадам я, спакойна ідзі!» —
Нашэптвала ціха дарога.

«Зірні, як пад сонцам сінеюць снягі»,—
Гара мне шаптала нясмела.
«Прыляж на траву», — запрашалі лугі.
Прылёг я, і мне палягчэла.

І гора цяжкога парваўся ланцуг —
Мне іншага раю не трэба, —
А толькі б дарога, ды рэчка, ды луг,
Ды роднае сіняе неба.

●

«Пакуль жывём, і смерць на свеце
будзе!»
Мудрэц бясконца нам сцвярджаць гатоў.
Не хлусіць ён. Чаму ж не могуць людзі
Сябе суцешыць праўдай гэтых слоў!

Мудрэц сваё гатоў сцвярджаць бясконца,
Аднак мы знаем і без мудраца:
Святло не гасне, хоць заходзіць сонца,
Хто б ні памёр, жыццю няма канца!

Але сцвярджае зноў мудрэц цярплівы:
«Усё ва ўладзе тэрмінаў сваіх».
Я знаю, хоць і горкі, ды праўдзівы
Сэнс слоў такіх, і мы ў палоне іх.

Жыццё і смерць — не цуд, я знаю тое.
Ды як мне быць, калі не ў час бяда,
Калі падняў я птушаня малое,
Што ўпала, яшчэ цёплае, з гнязда!

●

Зноў месяц май на белым свеце,
Пух белы кружыцца ўгары.
Куды хутчэй, чым нашы дзеці,
Растуць таполі на двары.

Зноў месяц май, і сонца грэе,
І ўсё маркотней з кожным днём
Я думаю, што мы старэем
Хутчэй, чым дрэвы пад акном.

Усё не так, усё няміла,
Горш, чым на самай справе ёсць.
Не той мая здаецца сіла,
Твая не гэткай прыгажосць.

Прашу ў цябе я прабачэння
За слоў не новых пераказ,
Ды боль любога пакалення
Бывае новым кожны раз.

## РАБОТА

Цяжкой работы не кляну,
Якая шчасце, хлеб дае мне.
Як людзі кажуць, гну спіну
І дзень і ноч я недарэмна.

Рабіў я справу на зямлі,
Не марна жыў я, дзякуй богу,
І ў светлы дзень і ў час, калі
Нам зоркі свецяць на дарогу.

Рабіў, як вол. Гадам сваім
Цяжкім не пасылаў праклянцце,
Апраўдваў малако, якім
Мяне ў свой час карміла маці.

Тапіў я горыч не ў віне, —
Што холад мне, што мне спякота! —
І сілу зноў вяртала мне
Зусім не лёгкая работа.

Не зорка, а яна, адна,
Мяне вяла — пад ёй я вырас,
Ніколі я, каб не яна,
Таго не вынес бы, што вынес.

І, можа, шчасце наша ў тым,
Што падганяе справа справу,
Што не падобныя зусім
Ні дзень на дзень, ні сон на яву.

Знаць буду: жыў я не дарма.
Нічога, што здабыткаў мала.
Ды зробленае не прапала,
І іншай мудрасці няма.

Дык хай, пакуль я не ў труне,
Не памяншаецца турбота.
Не пакідай мяне, работа,
Ратуй мяне, ратуй мяне!

## ПАЭТАМ ДВАЦЦАТАГА ВЕКУ

Бяссілле ў пакутлівы час,
Няволя на здзек чалавеку —
На свеце вядомы да вас,
Паэты дваццатага веку!

Вядома ўсё гэта вякам.
Ды слепнуць ад бляску, ад дыму,
Што нішчылі Хірасіму,
Было толькі суджана вам.

Таксама не чулі раней, —
Стагоддзі пацвердзіць гатовы,—
Каб кідалі ў топкі людзей
І там іх палілі, як дровы.

Свет бачыў і слёзы і кроў,
А толькі, з канцом немінучым,
Не бачыў ён тых лагероў,
Абплытаных дротам калючым.

І вас там на кару вялі,
Хацелі, каб вы замаўчалі,
Крывавыя раны зямлі
І вашымі ранамі сталі.

Але ў сутарэннях нямых,
Дзе змрок непраглядны спрадвеку,
Вам сніўся і радасны міг,
Паэты дваццатага веку!

І сёння вы верыце ў лёс
Разумны, людскі, чалавечны,
Як сейбіт і каменячос
У зерне і ў камень спрадвечны.

І змрочных не скажаце слоў
Планеце, ахопленай жахам:
Што полымя зоймецца зноў
І пойдзе ўсё сутнае прахам.

Быць можа, на свеце адной
Паэзіі грэх сумнявацца,
Што вечны пад неба страхой
І колас, і камень, і праца.

Патрэбна цяпер, як даўней,
Радкам не пакорлівасць здзеку,
А мужная вера ў людзей,
Паэты дваццатага веку!

Аўтарызаваны пераклад
з балкарскай Аркадзя КУЛЯШОВА.

---

У расчыненае акно льецца цёплы жнівеньскі адвячорак. Максім Іванавіч сядзіць насупраць у такім жа, як і я, нізкім, вельмі ўжо ўтульным крэсле спіной да кніжных паліц. Яго добрыя і працавітыя рукі ляжаць на часопісным століку спакойна і важка. І я чую цікавыя для мяне старонкі яго біяграфіі.

—... Вярнуўся я ў свой Віцебск у лютым сорак пятага, ужо ў званні капітана, адразу ж са шпіталя — камісавалі падчыстую. Быў у нас домік непадалёку ад хлебазавода. І вось няма яго — разбамбілі. Добра, што Алена з Паўлікам на той час ужо не жылі там, а выехалі за Дзвіну... Ну, а пасля падаліся сюды. Чаму менавіта сюды? Не ведаю. Можа таму, што патрэбны былі тут вельмі рабочыя рукі. А можа недзе жыла ўва мне патаемная цяга да вандровак. З таго часу вось і жывём тутака... І не шкадую. Толькі маёй Алены няма. Перажыла яна многа ў вайну, надарвала сябе...

Журботны Максім Іванавіч дастае цыгарэту, закурвае. І я маўчу, баючыся парушыць гэтую цішыню, тое ўзаемаразуменне, якое ўсталявалася між намі. Затым выходжу ў двор: хай Максім Іванавіч пабудзе сам-насам са сваімі ўспамінамі.

## АДВЯЧОРКАМ

Зноў ціхі надвячорак. Тут, пад старой сасной, што раскінула свае галлё па-над самым камяністым абрывам, па-дамашняму суцішна і ўтульна. Унізе, сярод лысых валуноў, ляніва перакочваюцца з боку на бок светла-зялёныя акіянскія хвалі, шуміць прыбой, ды гаманлівымі чародамі носяцца неўтаймаваныя чайкі. Праз лёгкую смугу праступаюць абрысы вулкана. А над галавой — чысты, мяккі блакіт неба.

Чамусьці іменна тут, далёка ад дому, можа ўпершыню вось гэтак глыбока, канкрэтна, усхвалявана думаецца пра нашу вялікую Радзіму, ахопліваеш яе мысленна адразу, усю цалкам, і ў душы выспявае гонар, што ты — яе сын; нараджаецца любасць да кожнага дрэва, да кожнай травінкі, да гэтых вось валуноў — ты маеш права хадзіць, жыць, працаваць, бо ты гаспадар усяго гэтага... І думаецца яшчэ пад бясконцы шум прыбоя пра тое, як часта ў будзённасці мы забываем аб гэтых вечных вытоках жыцця — і вадзе, і вулканах, дзе і зараз можна назіраць вялікую з'яву разбурэння і сатварэння нашай планеты... Менавіта ў такія хвіліны многае перадумваеш, і многае здаецца з тваіх асабістых перажыванняў і дробязным, і нават нікчэмным. І хочацца прыўзняцца над сабой, адсеяць непатрэбнае, другараднае. Гэта — неабходнасць, як неабходнасць быць заўсёды да канца шчырым.

## СУСТРЭЧА З ПЕСНЯЙ

Там, дзе ўчора яшчэ з Максімам Іванавічам мы сустракалі раніцу, сёння мнагалюдна. Даносяцца гукі баяна, дзявочыя прыпеўкі, жарты.

Вакол баяніста завіхаюцца дзяўчаты.

— Саша, давай «Венеру».

— Дапаможам.

Першыя акорды баяна насцярожылі, а праз момант... Праз момант я захваляваўся, як дзіця. У Сашы-баяніста вельмі добры, каб не сказаць цудоўны голас.

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прынясла...

Над акіянам, за многія тысячы кіламетраў ад роднага котлішча, гэтыя радкі надзвычай узрушылі. Прыгадаліся дом, вёска, дзе нарадзіўся, школа, дзе ўпершыню пазнаёміўся з неўміручымі творамі нашага вялікага паэта...

Гэтымі ўспамінамі, роздумам жыву другі дзень.

## ЦІХАЯ РАДАСЦЬ

Нарэшце ажыццяўляецца мара — аб'ехаць востраў.

Выязджалі да ўзыходу сонца — шлях наш ляжыць на самы дальні мыс, «Край свету». Едзем на конях.

За адзін дзень мы пабывалі ў самых розных мясцінах. Любаваліся «двоеветвым каменем», які быццам бы той вартавы стаіць у акіянскай вадзе і на свае грудзі прымае штормавыя хвалі. У адзіным маналіце — галава чалавека і мядзведзя. Не адно стагоддзе, а можа тысячагоддзе спатрэбілася прыродзе на стварэнне гэтага свайго помніка-цуда.

Лавілі на звычайную вуду (пры заходзе сонца) корушку ў бухце Крабавай, хадзілі па вузенькіх рыпучых дашчаных тратуарах па-над самай вадой і ўдыхалі, як жартаваў Максім Іванавіч, «усю сутнасць акіяна — Ціхага і Вялікага». Лавілі «каралеўскіх» крабаў, варылі іх ногі і клюшні, елі самае далікатнае саладкаватае мяса — смаката! Хадзілі па непралазнаму маладому бамбуку, адпачывалі пад соснамі, якія ніколькі не адрозніваюцца ад нашых.



Вось які ён, «двоеветвы камень».

Былі і на «Плакучай скале», ужо на добрым змроку. Унізе ўвесь пасёлак у электрычных агнях; у агнях і мора: сотні рыбалоўных сейнераў вядуць там лоў сайры і кальмараў... З бухты, з плаўбазы далёка навокал разносіцца, узмоцненая дынамікам, мякка-трывожная музыка. А тут, каля самай чысценькай крынічкі, Максім Іванавіч нечакана перанёс мяне ў сівую мінуўшчыну...

Даўным-даўно, больш за трыста год таму, прыплылі сюды рускія марахоцы — першаадкрывальнікі Курыльскіх астравоў. І ў аднаго з іх закахалася маладая курылка, любімая ўнучка старэйшыны рода. Гэта было самае чыстае, самае светлае каханне двух сэрцаў. Ён і яна сустракаліся ўпотай, і сустрэчы гэтыя былі кароткімі і таму, мусіць, самымі жаданымі. Ды не суджана было ім быць разам — рускаму нельга было не ехаць назад, а ўнучку дзед не адпусціў. Яна кожную раніцу прыходзіла на гэтую скалу і да позняга вечара сумавала па мілым. А ў адзін дзень моўчкі кінулася ў бездань. З таго часу і назвалі скалу Плакучай. Крыніца тут бруіць і зімой, і летам.

Максім Іванавіч прытрымаў свайго каня, пачакаў, пакуль я параўняюся з ім.

— Вось ты ўчора, — гаворыць ён сваім роўным голасам, — у канторы завода ўвесь свой блакнот спісаў лічбамі. І план там, і выкананне, і прозвішчы перадавікоў. А скажы мне шчыра, уяўляеш ты ўсё гэта, ну, як гэта сказаць, аб'ёма, ці што?.. — І не дачакаўшыся адказу, катэгарычна заявіў: — Не, не ўяўляеш!

Глядзіць некаторы час на мяне хітравата-прамоўжна, нават зморшчынкі збегліся пад пераноссем.

— Што такое трыццаць мільёнаў бляшанак кансерваў у год? План. Многа гэта ці мала — невядома. Як кажуць, няма нагляднасці... Дык вось табе цяпер нагляднасць — на працягу цэлага тыдня гаспадыні Масквы, Ленінграда, Новасібірска, Баку і Кіева да абедзеннага стала могуць падаваць адну толькі сайру, прыгатаваную за пуціну, на нашым востраве. — І паўтарае: — Адну толькі сайру. А мы ж даем і скумбрыю, і камбалу, і ласося.

А я думаю пра жартаўлівую Машу, што сустрэлася нам па дарозе, пра рэдактара раёнкі, пра шчырага Аляксея Міхайлавіча, і пра многіх іншых, пра тых, з кім паспеў пазнаёміцца. І мяне напаўняе ціхая, нейкая ўрачыстая радасць, што тут, на самым краі зямлі, па-чалавечы шчыра жывуць, працуюць, вучацца, кахаюць гэтыя цудоўныя людзі.

**Сёлета Міжнародны дзень тэатра (27 сакавіка) грамадскасць адзначыла пад знакам ушанавання вялікага рускага драматурга А. М. Астроўскага ў сувязі са 150-годдзем з дня яго нараджэння. Пачалася і Першая рэспубліканская дэкада тэатральнага мастацтва. Рэжысёры і акцёры сустракаюцца з калектывамі прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, навучальных устаноў. На сцэнах даюцца лепшыя спектаклі рэпертуару. У галоўных ролях выступаюць і майстры мастацтва братніх рэспублік краіны.**

**На здымках, зробленых Ул. Крукам, вы бачыце асобныя моманты гэтай маляўнічай і святочнай мазаікі тэатральных падзей, што адбываюцца ў часе дэкады.**



Салістка Талінскага тэатра оперы і балета «Эстонія» В. Чычарава рыхтуецца да спектакля «Лебядзінае возера».

# КРЫНІЦЫ ГОРНЫЯ — ПРАЗРЫСТЫЯ

*«МІНДЗІЯ» А. ТАКТАКІШВІЛІ НА СЦЭНЕ АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ОПЕРЫ І БАЛЕТА БССР.*

ГЭТЫ ТВОР заваяваў шырокую папулярнасць — Тбілісі і Ерэван, сцэны братніх рэспублік і сталіцы краіны далі тэатральнае і канцэртнае ўвасабленне «Міндзіі», і ўсюды яна выклікае цікавасць слухачоў. Цяпер оперы грузінскага кампазітара апладзіруюць мінчане. Па сутнасці, спектакль на нашай сцэне — гэта першы зварот да тэатральнай музыкі Грузіі (раней ставілася толькі камічная опера В. Далідзе «Кэто і Катэ»). Трэба адзначыць, што оперны калектыў успрыняў партытуру А. Тактакішвілі не як праяву «ўсходняй экзотыкі» або спакусу для фармальнага эксперыменту. Пастановачная брыгада (рэжысёр С. Штэйн, мастак М. Малазонія, дырыжор Я. Вашчак, хормайстры А. Кагадзееў і Г. Луцэвіч) прыклала нямала намаганняў, каб па-творчы раскрыць багацце музычнай драматургіі, паэзію і хараство легенды, дакладна перадаць нацыянальны каларыт у разумным спалучэнні з магчымасцямі і выканаўчым стылем беларускіх артыстаў.

Скарыстаўшы паэзію славутага Важа Пшавелы, кампазітар стварыў музычна-драматургічны твор, маштабны па гучанні і змястоўны па пафасу. «Міндзія» славіць гармонію Чалавека і Прыроды, мужнасць героя, які насуперак варварскім забабонам паказвае народу ідэалы сапраўднага дабра і высакароднасці, выступае асветнікам супляменнікаў.

**Спектакль амаль дэманстратыўна пазбаўлены знешняй займальнасці. І ў самой оперы няма вострасюжэтных ходаў, той «інтрыгі», якая на сцэне музычнага тэатра лічыцца абавязковай, хоць многія гісторыі (Манон Ляско, Фаўст, Анегін, Атэла, Тоска і г. д.) звычайна бываюць знаёмымі аўдыторыі загадзя. «Міндзія» вабіць унутраным напалам пачуццяў і выразным драматызмам духоўнага жыцця героя. Прыгадваецца выказванне заснавальнікаў эстэтыкі тэатра аб асаблівым узрушэнні — катарсісе, перажываючы які, публіка па-новаму пачынае ўспрымаць і мінулае, і сучаснае, і чалавечую істоту наогул. Думаецца, што т а к а я інтэрпрэтацыя оперы пастановачным калектывам у Мінску ўжо заслугоўвае добрага слова. Бо музыка тут вядзе за сабой думку і эмоцыі слухачоў, разам з ёй спасцігаем мы сутнасць канфлікту, што пакладзены ў аснову філасофіі і паэзіі твора.**

Так, рэжысёр С. Штэйн і дырыжор Я. Вашчак паказваюць, што яны ўмеюць паглыбляцца ў музычную тканіну складанай партытуры, адчуваюць і разумеюць «голас» А. Тактакішвілі і раскрываюць оперу ва унісон з кампазітарам. А ён спалучыў у адзіную плынь умоўна-тэатральную форму і грамадска-сімвалічны план твора (вобраз Прыроды, персаніфікаваны ў партыі хору) з планам жыццёва-рэальным (Міндзія, яго бацька Хевісберы, забойца Чалхія і закаханая ў Міндзію Мзія). Эпічныя рысы з выразнай аратарыяльнасцю ў раскрыцці істотных момантаў оперы дыктуюць і арсенал пастановачных прыёмаў. Вядома, як і ў кожнай оперы, у «Міндзіі» самае галоўнае — спеў і яшчэ раз спеў (асабліва, калі мець на ўвазе грузінскі вакал). І на мінскай сцэне мы чуем яго — то суровым, то лірычна-пранікнёным, то стрыманым і «эпічным», то бязмежна шырокім. Салісты і хор у гэтым спектаклі не толькі добра выконваюць партыі, яны выступаюць актыўнымі ўдзельнікамі драматычнага відовішча. Спявае і аркестр сваю партыю, дэманструючы багацце фарбаў, тэмбраў, нюансаў і тады, калі акампануе, і тады, калі сам робіцца галоўным у выказваннях і споведзях.

Зразумела, каб у нас было ўражанне, што тэатр с п я в а е оперу, дырыжору Я. Вашчаку давялося пераадолець шмат цяжкасцей.

**Да гонару музычнага кіраўніка тэатра варта аднесці тое, што публіка не адчувае, быццам аркестр, салісты і хор штосьці пераадольваюць. Арганічнае суладдзе, высокі ансамбль падкрэсліваюць ясна расстаўленыя мастацкія і сэнсавыя акцэнты, кантрастныя кульмінацыі і ўсхваляваныя інструментальныя «сола». Незабыўныя пяшчотныя піянісіма ва ўступе і ў фінале оперы, напрыклад...**

**Значныя і шматгранныя функцыі хору. Дарэчы, яго партыю ў «Міндзіі» можна параўнаць з харавымі нумарамі танееўскай «Арэстэі», якая ставілася Беларускім тэатрам оперы і балета і, на жаль, цяпер знікла з рэпертуару. Як і ў Танеева, тут хор — нібы выказнік гуманістычнай ідэі і яе эмацыянальна чулы каментатар. Ён і ўдзельнік падзей. Праўда, часам яму цяпер яшчэ нестае востра характарных фарбаў грузінскага спеву, але інтанацыйным ладам і самабытнай паліфаніяй арыгінала ён авалодаў і спявае чыста.**

**Заўважым, што ў мінскім спектаклі хор з'яўляецца яшчэ і выканаўцам партыі Прыроды (спявае за сцэнай ён паводле партытуры, а С. Штэйн выводзіць яго і тут на сцэну). На нашу думку, такая трактоўка партыі Прыроды правільная і заканамерная. Затое абавязкі артыстаў гэтага калектыву значна ўскладніліся.**

Да знаходак рэжысуры мы аднеслі б і, умоўна кажучы, выяўленчую партытуру спектакля. Яна цалкам адпавядае музычнай драматургіі А. Тактакішвілі. Знойдзена апраўданае суіснаванне ў адным відовішчы рэальнай плыні з умоўна-філасофскім характарам паэтычнай легенды. Дыялектычная пабудова відовішча не пакідае і следу ад схематычнасці, якая, бывае, звяртае на сябе ўвагу ў творах такога плана.

На сцэне рухаюцца скалы. Яны то набліжаюцца да героя, і Прырода тады звяртаецца да яго з пытаннем: «Што зрабіў ты, Міндзія?», то стаяць у ззянні серабрыстага святла, як нямыя сведкі таго, што адбываецца і што перажывае Чалавек... Раптам скалы зноў «пакідаюць» героя аднаго — Прырода не хоча быць апекуном яго. А потым зноў яна тут, побач, і ён, Міндзія, у рашучы момант жыцця і змагання нібы зліваецца з Прыродай, як сын яе, адданы і нязўрымслівы, мужны і сумленны ў сваіх шуканнях праўды.

**Тэхніка сцэны ў руху, і гэта не эфектны рэжысёрскі прыём, а ўнутрана апраўданы мастацкі матыў у пастановачнай партытуры спектакля. Прырода і ў выяўленчым паказе, і ў гучанні хору выступае дзейнай асобай — спачувае, дарує, асуджае, разумее, славіць...**

Выдатнае прафесійнае майстэрства праяўлена рэжысёрам разам з балетмайстрам з Грузіі М. Ламтатыдзе, у пастаноўцы масавых сцэн, у самым іх кампазіцыйным рашэнні. Незабыўны, у прыватнасці, фінал першай часткі оперы. Клятва пшаваў, хвацкі вайсковы танец, звон клінкоў, барабанны пошчак, прызыўны кліч фанфар, полымя кастроў, трапятанне сцягоў — усё зліваецца ў яркім тэатральным відовішчы, гарачыць уяўленне, п'яніць, як віно. І хоць артыстам балета яшчэ не зусім удаецца стыль грузінскага танца, роля балета ў абедзвюх частках оперы вельмі значная.

Старанна прадумана рэжысёрам лінія сцэнічных паводзін салістаў, для кожнага вобраза знойдзен свой характэрны малюнак. С. Штэйну ўдалося перадаць чысціню пачуццяў і цэласнасць характараў галоўных герояў, пазбегнуць саладжавай сентыментальнасці ў інтымна-лірычных эпізодах. Бліскуча вырашана сцэна справакаванага паядынку Міндзіі і Чалхіі. Пераканаўча абыграны эпізод смерці героя, яго растварэння ў Прыродзе. Крыштальная крыніца, якая б'е са скалы, якая нібы ўвасабляе невычарпальную крыніцу жыцця.

**Можа толькі адна недакладная нота дапушчана ў гэтым фінальным ансамблі. Абыякава і спакойна сярод чарады сяброў ідзе з сасудам Мзія, якая толькі што страціла каханага. Нішто не выдае яе гора. Яна ў тым жа блакітным адзенні. Разам з усімі ўслаўляе яна мудрасць Прыроды... Відавочна, гэта так і трэба. У тым і заключаецца задума — падкрэсліць неадольную сілу жыцця, нікчэмнасць асабістага, індывідуальнага смутку перад тварам радасці быцця чалавечага калектыву. Але нейкі пралік тут усё ж такі адчувальны. Вельмі блізкія ў часе (нават беручы пад увагу, што сцэнічны час зусім умоўны) гэтыя два эпізоды ў партытуры — смерць героя і спакойны поступ Мзіі. А падзяліць іх неяк трэба. Хоць бы ў жалобнае ўбранне апранулі гераіню, ці што...**

Дэкарацыі і касцюмы ў цэлым знойдзены вельмі правільна, каляровая (і светлавая) гама спектакля — строгая, лаканічная і прыгожая, садзейнічае яго стылявому адзінству. Некаторая стрыманасць і суровасць каларыту апраўдана характарам музыкі. Дэталёвая характарыстыка акцёрскіх работ выходзіць за рамкі артыкула. Можна адзначыць толькі, што ўсе партыі забяспечаны моцным складам выканаўцаў, што музычна-вакальны і глядзельна-сцэнічны бакі выканання ўвогуле на добрым узроўні. І калі ў нас няма свайго Зураба Анджапарыдзе, які ўжо сам па сабе з'ява ў спектаклі, то ў мінскай пастаноўцы вабіць іншае — роўны музычна-сцэнічны ансамбль.

Вырас, сфарміраваўся за апошні час вакальна і сцэнічна — у тым ліку і на партыі Міндзіі — М. Галкоўскі. Сапраўдным адкрыццём з'явілася выкананне цэнтральнай тэнаравай партыі Ул. Іваноўскім, які, мяркуючы па ўсяму, абяцае стаць яркім оперным спеваком. Спецыяльнага аналізу заслугоўвае вобраз Чалхіі ў

# ЯШЧЭ АДЗІН

*«ШЧАСЛІВЫ РЭЙС» С. ЗАСЛАЎСКАГА І І. ІЛЬІНА Ў ДЗЯРЖАЎНЫМ ТЭАТРЫ МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ БССР*

У гэтым спектаклі ўсё падкрэслена лаканічнае — аўтарская задума, сюжэтная канва, колькасць персанажаў, дэкарацыйнае афармленне, склад аркестра і працягласць дзеяння. Мы сказалі б, што дэманстратыўна сціплая і музыка, якая павінна была надаць гэтай п'есе якасць «музычнай камедыі»...

А назва — «Шчаслівы рэйс» — абяцае нешта багатае, шчодрае на фарбы. Як жа характарызаваць гэты лаканізм ва ўсіх кампанентах спектакля Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР? Станоўча ці адмоўна? Адказ не можа быць адназначным, і знаходкі, і пралікі варта разглядзець у розных аспектах.

Перш за ўсё — пра п'есу. Крыху смешная гісторыя. Крыху і сумная, бо не раз ужо сустракаліся не толькі на аперэтачнай сцэне такія сітуацыі.

**...Юнак, які любіць кіно і марыць стаць кінаартыстам, прабіраецца без білета на параход, на якім едуць удзельнікі здымачнай групы. Косцю, натуральна, знаходзяць. Дзякуючы збегу акалічнасцей, ён выдае сябе за артыста — галоўнага героя будучага фільма... Далей адбываюцца розныя сцэнкі, у час якіх «самазванец», здараецца, трапляе ў няёмкае становішча, бо не ведае элементарных правілаў паводзін, зусім недасведчаны ў пытаннях мастацтва. Мабыць, ён усё ж нядрэнны хлопец, і мы адчуваем да яго сімпатыю. Героі, якія яго акружаюць — таксама выклікаюць сімпатыю і... лёгкае непаразуменне.**

**Сапраўдны артыст Аляксей Лясноў, прыняўшы прапанаваную Косцем гульню, выдае сябе за безбілетнага «зайца» Косцю. У гульню ўцягваюць і рэжысёра фільма Яўгенія Васільевіча Толіна. У ходзе развіцця падзей актрысе Валянціне Фёдараўне Бельскай даюць зразумець, што ў такім узросце роля гераіні фільма ёй не падыходзіць, лепш сыграла б яе дачка Ірына. У Ірыну, вядома, закахаўся Косця. Сам жа Лясноў сімпатызуе Бельскай, і яна яму адказвае таксама ўзаемнасцю. Усё заканчваецца традыцыйна — героі зноў атрымліваюць свае ўласныя імёны, Косця абяцае стаць сур'ёзным, вучыцца (хоць бы на адміністратара!)... Нават буфетчыца Кацюша і памочнік капітана Дацiка Бакрадзе набліжаюцца, нарэшце, да шчасця...**

Пад заслону ўсе сем персанажаў, задаволеныя сваім лёсам (праўда, адно толькі рэжысёру Толіну не хапіла пары), развітваюцца з гледачамі...

Такая гэта нескладаная гісторыя, прыдуманая драматургам Я. Зіскіндам і пераробленая кампазітарамі І. Ільіным і С. Заслаўскім у музычную камедыю.

Вы спадзеяцеся, што музыка пэўным чынам «кампенсавала» банальныя прыгоды банальных персанажаў? Не, гэтага не здарылася. Устаўныя арыі і куплеты застаюцца дзяжурным дадаткам да п'есы. Звярніце ўвагу, што гледачы, па-першае, не апладзіруюць музычным нумарам (гэта — у аперэце!), па-другое, не «выносяць» з залы ніводнай мелодыі.

Выканаўцы на чале з пастаноўшчыкам спектакля ў Мінску (ён — выпускнік Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва імя А. Луначарскага) М. Проніным прыкладаюць намаганні, каб хоць у некаторай меры надаць твору жывыя рысы арыгінальнага відовішча. Скажам, капітан Бакрадзе на пачатку запрашае гледачоў «на борт» карабля, і зала робіцца нібы месцам дзеяння. Наладжваецца нават пэўны кантакт паміж сцэнай і публікай. Мы ж — «пасажыры». І калі, напрыклад, Лясноў спявае, то гэта выглядае канцэртным нумарам, адкрыта адрасаваным нам, пасажырам...

Але ніякія намаганні не могуць выратаваць драматургічнага шаблону. Калі спектакль і пачынае заваёўваць частку залы, то гэта трэба аднесці на кошт энтузіязму артыстаў, занятых у «Шчаслівым рэйсе». Акцёры сапраўды павінны рабіць амаль немагчымае, каб так захоплена жыць у прапанаваных аўтарамі абставінах, як гэта робяць В. Шаўкалюк (Бакрадзе), А. Крайнікава (буфетчыца Кацюша), В. Фаменка (Косця). Яны карыстаюцца любым паваротам сюжэта або смешнай сітуацыяй, каб нешта знайсці для сябе і ўнутрана апраўдаць паводзіны персанажаў. Асабліва часта даводзіцца на «мінімальным» матэрыяле прыстасоўвацца да абставін В. Фаменку, бо яго Косця і сапраўды трапляе то ў смешнае, то ў драматычнае становішча, і яму трэба пераконваць усіх, што ён — артыст...

Добрае ўражанне пакідае Н. Белавусава ў ролі Ірыны — наіўнай дзяўчынкі, што марыць пра кіно, але не хоча перашкаджаць маці. І толькі па просьбе рэжысёра Толіна яна пачынае рэпеціраваць ужо даўно падрыхтаваную ролю. Летуценнасць гэтай шчырай душы Н. Белавусава перадае вельмі непасрэдна.

Гераіня Д. Івановай крыху статычная, нават сузіральная. Магчыма, такая і аўтарская задума. Але хацелася б, каб Валянціна Фёдараўна ў выкананні Д. Івановай дазваляла сабе больш «ваяўніча» выяўляць характар.

Артыст К. Лосеў іграе артыста Ляснова. І тут (зноў па волі аўтара п'есы), пры ўсіх спробах выканаўцы быць шчодрым у сваіх пачуццях і актыўна дзейсным, яго герой застаецца схематычным, мала эмацыянальным. Тое ж можна сказаць і пра Толіна, ролю якога выконвае Ю. Харытонаў...

Вінаваты ў гэтым драматург і кампазітары.

Я нічога не пішу пра вакальную частку, бо малаарыгінальная музыка не дазволіла артыстам па-сапраўднаму раскрыцца ў гэтым напрамку. Затое аркестравае суправаджэнне дзеяння

Алег БЕЛАВУСАЎ

# НАСТАЎНІК

Міхаілу Аркадзевічу КЕРЗІНУ — 90

...ДЗВЕРЫ мне адчыніў сам гаспадар:

—Так-так... Я ўсё ведаю. вы з Мінска, з газеты «Літаратура і мастацтва». Мы з вамі нейкім чынам калегі. я ў гэтай газеце таксама друкаваў свае артыкулы, так што трымайцеся, як дома, праходзьце, зараз будзем піць чай і вы мне пра ўсё раскажаце...

У яго голасе столькі зацікаўленасці, столькі сапраўднай, а не для ветлівасці гасціннасці, што на душы адразу робіцца лёгка і спакойна...

— Міхаіл Аркадзевіч, шчыра кажучы, я спадзяваўся, што расказваць будзеце вы.

Ён засмяяўся пявучым, дробным смехам:

— Згода. Будзем піць чай і расказваць па чарзе...

●

Міхаіл Аркадзевіч Керзін. Дэкан скульптурнага факультэта Ленінградскага інстытута жывапісу, ваяння і архітэктуры імя Рэпіна. Прафесар. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі. Учора яму споўнілася дзевяноста год.

Якое незвычайнае жыццё пражыў гэты чалавек. Колькі ўсяго выпала на яго лёс!..

Ён ведаў Рахманінава, Стасава, Кюі. Сябраваў з Собінавым. Працаваў побач з Урубелем, быў знаёмы з Рэпіным. Яшчэ да рэвалюцыі вядомы скульптар, ён стварыў Таварыства мастакоў Расіі, ганаровым старшынёй якога быў Ілья Яфімавіч Рэпін і якое аб'ядноўвала найбольш дэмакратычныя мастакоўскія сілы. З першых дзён Савецкай улады—выконваў адказныя даручэнні Наркамасветы і асабіста Луначарскага па выяўленні і захаванні мастацкіх каштоўнасцей. У 1918 годзе стварыў мастацкую школу ў глухім Веліжы, у 1924 узначаліў Віцебскі мастацкі тэхнікум, з якога, уласна, пачалося беларускае савецкае выяўленчае мастацтва. У яго майстэрні спасцігалі азы прафесійнай граматы такія вядомыя сёння мастакі, як Заір Азгур, Аляксандр Арлоў, Андрэй Бембель, Аляксей Глебаў. Ён узначальваў брыгаду скульптараў, якім было даручана ў 1933 годзе афармленне Дома ўрада ў Мінску. Пасля вайны Міхаіл Аркадзевіч Керзін актыўна ўдзельнічаў у аднаўленні беларускай сталіцы і, канечне, працягваў вучыць скульптараў...

— Вось што я вам скажу,—Міхаіл Аркадзевіч адклаў у бок ліст, які я прывёз яму з Мінска,—былі ў маім жыцці гады больш шчаслівыя, лёгкія, калі, здаецца, сама фартуна дапамагала падняцца ў паветра, але з найвялікшай душэўнай цеплынёй прыгадваюцца ўсё жтыя пакутлівыя, цяжкія, бедныя, галодныя і непаўторныя гады, калі наладжвалася работа Віцебскага мастацкага тэхнікума... Мы былі такія маладыя...

Невысокі, хударлявы, з вострым, быццам сакаліная дзюба, носам, з нязменнай папяроскай у доўгіх, «музыканцкіх» пальцах, ён паважна хадзіў па класах Віцебскага мастацкага тэхнікума. Класы былі пустыя. Не было ні сталоў, ні мальбертаў, ні крэслаў, ні станкоў для скульптуры. Не было нічога акрамя энтузіязму, прагі жыцця, веры ў свае сілы і маладосці...

— Існавала ў той час у Віцебску такая ўстанова — «Вадасвет». Чым яна займалася, ніхто не ведаў, але, як кожная «сапраўдная» ўстанова, «Вадасвет» лічыў неабходным мець шыкоўныя шыльды. Заказалі яны іх тэхнікуму. Мы прымалі такія заказы — стыпендый у той час не было, а студэнтам з нечага карміцца трэба, ды і выкладчыцкі заробак быў даволі бедным. Адным словам — узяліся. Выпісалі нарад на матэрыялы, чакаем... Аднойчы пад'язджае да тэхнікума цэлы абоз. Прывезлі лес. Што за дзіва! Я быў упэўнены, што адбылася памылка, але ў паперах — чорным па белым: «Тэхнікуму ад «Вадасвета» матэрыял для шыльдаў».

Зрабілі мы з таго матэрыялу і сталы, і крэслы, і мальберты... Ну, і шыльды, канечне. І толькі потым, праз колькі часу даведаліся, што наш загадчык гаспадаркі, чалавек не вялікай адукацыі, складаючы нарад, памыліўся на адзін нуль!.. На адзін нуль, разумееце!..



М. А. Керзін у майстэрні.

Міхаіл Аркадзевіч смяецца. Смяюся і я. Смяюся і думаю, што не так усё было весела і лёгка. Не так проста. Савецкае мастацтва толькі шукала шляхі, па якіх яму ісці ў будучыню. Самыя неверагодныя групоўкі ўголас дэкларавалі свае правы, абвяшчалі сябе апосталамі «адзіна рэвалюцыйнага і народнага мастацтва». Многія намагаліся скінуць з «карабля сучаснасці» ўсё, што складала славу і гонар перадавога рускага мастацтва. У гэтай эстэтычнай завірусе нялёгка было вытрымаць сваю лінію ў мастацтве, нялёгка было заклікаць вучыцца ў «старых майстроў», у перасоўнікаў. Нялёгка было патрабаваць ад вучняў быць вернымі праўдзе і прыгажосці жыцця.

Патрэбны былі вялікія маральныя сілы, каб адстойваць сваё разуменне задач і метадаў мастацтва, каб весці бескампрамісную барацьбу за Лёшу Глебава, маленькага хлопчыка з дапытлівымі карычневымі вачамі, такога ціхага і такога д'ябальскі таленавітага. Два разы выключалі яго, як сына папа, з тэхнікума, і кожны раз Міхаіл Аркадзевіч прымаў бой, настойваў на тым, каб вярнуць яго ў калектыў. Ездзіў у Мінск, у Наркамат асветы, даказваў, пераконваў, лаяўся, браў на сябе адказнасць.

Нялёгка было перанесці звальненне з пасады дырэктара. Сабраўшы ў кулак усю сваю мужнасць, не пайсці з тэхнікума, а застацца выкладчыкам на малодшых курсах, каб працягваць вучыць Прыгажосці.

...Ля станка двое—настаўнік і вучань, невысокі, каржакаваты хлопец з буйнымі, чорнымі, як смала, валасамі і вялікімі, дзікаватымі вачыма.

— Не, — даводзіць настаўнік, —сама форма павінна быць такая, каб у ёй быў змест. Дапусцім, вы разглядаеце кісць рукі, ці плячо. Калі вы будзеце ўважлівым, дык убачыце, што гэта плячо чалавека, які знаходзіцца ў міноры, а гэта— кісць рукі чалавека, які цяпер у стане мажору.

Доўга глядзіць студэнт на сваю работу. Відаць ніколі не прыходзіла яму ў галаву думка, што нават асобная частка чалавечага цела можа несці свой эмацыянальны зарад і што мастак павінен, падпарадкоўваючы сабе тэхніку, дасягаць абсалютнага суладдзя задумы і формы.

Надоўга запамятаў цяперашні народны мастак Беларусі Заір Азгур той урок настаўніка...

У сваёй педагагічнай дзейнасці Міхаіл Аркадзевіч Керзін заўсёды намагаўся, акрамя чыста прафесійных ведаў, выхаваць у вучняў сапраўдную культуру, навучыць іх любіць і разбірацца ў літаратуры, гісторыі, музыцы, тэатральным мастацтве. У Віцебску частымі гасцямі ў яго майстэрні былі артысты і рэжысёры БДТ-2. Ён сябраваў з многімі беларускімі пісьменнікамі і музыкантамі.

Ён любіў спрачацца. Мог гадзінамі гаварыць, адстойваючы сваю думку. Прыводзіць напамяць цытаты з Арыстоцеля, Гегеля, чытаць Пушкіна, Блока... Да яго цягнуліся

Ён казаў пра сябе:

— Я тэхнічна бяздарны чалавек.Я не магу аб'яднаць у адно ўсё тое, што бачу.

Тэхнічна бяздарны... Ён быў віртуозам формы. Ён, як, відаць, ніхто з беларускіх мастакоў, разумеў законы формы. Але яго неверагодная патрабавальнасць да сябе не дазваляла яму ніводную сваю работу лічыць завершанай.

●

У запасніках Беларускага дзяржаўнага мастацкага музея захоўваюцца тры работы Міхаіла Аркадзевіча Керзіна — партрэт народнага артыста БССР Г. Грыгоніса, медаль «Урадлівасць», праект помніка воінам, якія загінулі ў баях Вялікай Айчыннай вайны. Акрамя гэтых работ, мне пашчасціла бачыць партрэты Собінава, Рымскага-Корсакава, Кюі, якія былі створаны Міхаілам Аркадзевічам яшчэ да рэвалюцыі. У гэтых работах уражвае гранічная падпарадкаванасць формы той думцы, таму пачуццю, якое хацеў перадаць мастак.

У напоўненасці, матэрыяльнасці аб'ёмаў, у дакладнасці прапорцый, вытанчанасці мадэліроўкі, з якімі выкананы партрэт Г. Грыгоніса, адчуваецца, што мастак глыбока пранікнуў ва ўнутраны свет мадэлі, што ён шмат думаў пра лёс свайго героя, што ён ведае пра яго «ўсё».

Ледзь прытоеная ў кутках вуснаў усмешка, скіраваны некуды ўбок задуменны позірк, зухавата павязаны бант-гальштук, — якія скупыя сродкі ў партрэтыста, але як многа здолеў ён нам сказаць.

Мы разумеем іранічнасць вядомага артыста, разумеем яго задуменнасць. У партрэце адлюстравана душа мастака, неўтаймаваная, парывістая...

«Урадлівасць» — твор зусім іншага плана. У гэтай рабоце перад мастаком стаяла задача стварыць вобраз чалавечай еднасці з прыродай, вобраз мацярынскага пачатку, які жыве і ў чалавеку, і ў танюткім дрэўцы. Акрамя таго, барэльеф мае свае, толькі яму ўласцівыя законы, пры якіх амаль плоскае адлюстраванне павінна выглядаць «круглым», аб'ёмным...

●

Магутныя каштаны заглядаюць у вокны майстэрні прафесара Керзіна.

Ціха шапаціць лістота. Семдзесят год назад, студэнтам, ён зайшоў упершыню ў гэтую майстэрню. Зараз тут яго чакаюць тыя, для каго шлях у мастацтва толькі пачынаецца.

І вось ён заходзіць. У сінім, зусім не прафесарскім халаце, з адпаліраванай далонямі самшытавай стэкай у руках, з кавалачкам гліны, які размінае па шматгадовай звычцы.

Абходзіць работы. Пільна ўглядаецца ў мадэль, правярае прапорцыі, нешта хмыкае сам сабе, ідзе далей.

Спыніўся. Спахмурнеў. Нечым незадаволены.

— Паглядзіце, якое прыгожае ў мадэлі вока, які плаўны, пругкі абрыс брыва. А ў вас?..

— Я сам адчуваю гэта, але як толькі пачынаю набіраць аб'ём вока, развальваецца ўся пабудова твару...

— Яна і будзе развальвацца, бо нельга механічна павялічваць адно, каб гэта не паўплывала на іншае, на ўвесь лад партрэта. Трэба правяраць, шукаць, спрабаваць. Дабівацца той прыгажосці, якая існуе ў жыцці. Вось паглядзіце...

Міхаіл Аркадзевіч надоўга затрымаўся каля гэтай работы. Ён будзе пераконваць, паказваць, потым сам возьмецца за гліну...

Зараз ён займаецца тым, чым займаўся ўсё жыццё,—пераадольвае непадатлівы матэрыял. Толькі сёння гэта не гліна, камень або дрэва, а душа мастака, якога ён павінен навучыць бачыць прыгожае ў прыгожым, бачыць і шчыра ім захапляцца.



«Урадлівасць».



Праект мемарыяльнага помніка воінам-героям.



Фотаэцюд Ул. КРУКА.

# ЛАНДШАФТ — КАТЭГОРЫЯ АРХІТЭКТУРНАЯ

ЯШЧЭ ЗУСІМ НЯДАЎНА тэрмін «ландшафтная архітэктура» ўяўляўся горадабудаўнікам нечым штучным, нечым ледзь не з навукова-фантастычных раманаў. Ахова прыроды, зберажэнне яе здавалася многім справай, якая, безумоўна, патрэбная, але ніякага дачынення да архітэктуры не мае.

Сёння, калі магутныя механізмы даюць чалавеку магчымасць стаць сапраўдным гаспадаром прыроды, калі ён сваёй дзейнасцю можа нават змяняць яе законы, калі рост гарадоў прымае нябачаны дагэтуль размах, перад намі, архітэктарамі, ва ўсёй сваёй важнасці паўстае пытанне зберажэння прыроды, арганічнага спалучэння яе з тым асяроддзем, у якім жыве і працуе чалавек.

Асноўныя задачы па ўзмацненню аховы прыроды ў нашай краіне намеціў XXIV з'езд КПСС. У дырэктывах з'езда падкрэслівалася адказнасць міністэрстваў, ведамстваў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый за рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў, неабходнасць забяспечыць у новым пяцігоддзі распрацоўку навуковых асноў аховы і пераўтварэння прыроды і лепшага выкарыстання натуральнага асяроддзя, якое акружае чалавека.

Узаемадзеянне паміж чалавекам і прыродай мае на ўвазе няспыннае змяненне іх абодвух. Прагназіраванне асяроддзя будучага, якое адпавядала б поўнасцю чалавеку будучага — выключна складаная задача.

Мы **сёння** павінны дбаць пра тое, каб нашым нашчадкам засталіся цудоўныя лясы, каб яны маглі захапляцца прыгажосцю беларускіх азёраў і рэк, каб гарады будучага не аддалялі чалавека ад прыроды, а, наадварот, набліжалі яе да чалавека.

Ужо сёння асновай кожнай архітэктурна-планіровачнай работы павінны з'яўляцца матэрыялы спецыяльных ландшафтных даследаванняў, у якіх даваўся б глыбокі аналіз якасці ландшафту ў месцы будучай забудовы.

Несумненна, справу гэтую трэба пачынаць са стварэння «карты» комплекснага ландшафтнага занірavання тэрыторыі ўсёй рэспублікі, якая дасць поўную характарыстыку сучаснага стану ландшафтаў, ступені іх урбанізацыі, удакладніць і ўстановіць межы тэрыторый з рознымі рэжымамі аховы і прапануе рэкамендацыі па іх перспектыўным засваенні.

Першыя крокі ўжо зроблены. Навукова-тэхнічным саветам Мінскага філіяла Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва ўхвалена прапанова сектара ландшафтнай архітэктуры распрацаваць на перспектыву 2000 года генеральную схему функцыянальнага раянавання Беларусі. У гэтай схеме павінны быць адзначаны ўсе найбольш важныя і цікавыя ландшафты рэспублікі як натуральнага, так і штучнага паходжання. Будзе распрацавана і схема запаведных тэрыторый БССР (запаведнікі, заказнікі, ландшафтныя і гідралагічныя прыродныя паркі). Несумненна, такая схема дасць неабходны матэрыял і архітэктарам-праекціроўшчыкам, і тым, каму даручана сачыць за разумным выкарыстаннем прыродных багаццяў рэспублікі.

Усякае будаўніцтва — гарадское, сельскае, прамысловае, дарожнае, павінна весціся толькі на падставе афіцыйна зацверджаных праектаў. Гэта аксіёма. Але, відаць, праект нельга лічыць сапраўды якасным, калі ў ім не ўлічаны асаблівасці тутэйшай прыроды, тутэйшага ландшафту.

У перадпраектны перыяд зусім неабходна праводзіць грунтоўнае вывучэнне прыродных умоў у раёне будучай забудовы. Але для таго, каб такое даследаванне было карысным, трэба дакладна распрацаваць яго методыку.

З якімі меркамі падыходзіць да ландшафту? Як яго ацэньваць? З чым параўноўваць? Усе, альбо амаль усе, гэтыя пытанні сёння застаюцца «адкрытымі». А між тым, вопыт эксперыментальнага праектавання, калі ландшафтны архітэктар і архітэктар-горадабудаўнік працавалі ў добрым суладдзі, паказвае, што якасць праектных прапаноў, абгрунтаванасць рашэнняў, глыбіня іх прапрацоўкі ў такіх выпадках значна больш высокія.

Пра гэта сведчыць вопыт комплекснага праектавання, які быў зроблены ў інстытуце Мінскпраект, калі там распрацоўвалі праект забудовы і добраўпарадкавання зоны адпачынку каля Заслаўскага вадасховішча. Аўтарскі калектыў імкнуўся падысці да архітэктурна-прасторавай арганізацыі тэрыторыі з улікам прыродных дадзеных гэтай мясцовасці. І трэба сказаць, што вынік атрымаўся неблагі.

Праблема аховы прыроды, захавання натуральнага асяроддзя і стварэння новых зялёных зон, паркаў, сквераў асабліва актуальная для буйных гарадоў і іх акружэння. Нават у самым добраўпарадкаваным горадзе пераважае камень, бетон, асфальт. А ў выніку — забруджванне паветранага басейна, шум, усё большая урбанізацыя гарадскога пейзажу.

Працуючы над генеральным планам Мінска, праектамі прыгараднай зоны і зон адпачынку, архітэктары Мінскпраекта не забываюцца на вопыт, назапашаны ў час комплекснага праектавання зоны вакол Заслаўскага вадасховішча. Але, на жаль, і па сёння комплексныя работы, якія спалучаюць праектныя прапрацоўкі з ландшафтнымі даследаваннямі, грунтуюцца, як і некалі, на ініцыятыве асобных энтузіястаў, у той час, як даўно павінны стаць правілам і для праекціроўшчыкаў вёскі, будаўнікоў дарог, для тых, хто займаецца лесаўпарадкаваннем.

Мы праектуем дарогі, удзяляючы асноўную ўвагу на іх інжынерна-тэхнічны стан, арганізацыю бяспекі руху. І гэта, безумоўна, правільна. Але навошта ж забывацца і на тое, што дарогі з'яўляюцца своеасаблівым гідам, які расказвае падарожніку пра прыгажосць, пра прыродныя асаблівасці краю? І калі мы хочам быць руплівымі і гасціннымі гаспадарамі. гаспадарамі, якім не абыякава, што будуць думаць пра іх госці, то трэба ўжо сёння падумаць пра захаванне краявідаў уздоўж нашых дарог, пра стварэнне ахоўных зон ля кожнай буйнай шашы.

Пытанні арганізацыі адпачынку і турызму асабліва цесна звязаны з праблемай аховы прыроды. На першы погляд, адпачынак — найбольш бяскрыўдны від дзейнасці чалавека. Але гэта толькі на першы погляд. Вывучэнне практыкі эксплуатацыі зон адпачынку паказала, што сёння трэба ставіць пытанне аб захаванні прыроды не толькі **для** адпачынку, але і **ад** адпачынку. Вынікі «бяскрыўднай» дзейнасці чалавека ў нас на Беларусі відочны, напрыклад, у раёне вадасховішча Вяча, берагі якога бязлітасна вытоптваюцца і забруджваюцца.

Але калі мы не палім у лесе кастроў, не сячэм дрэў, не забруджваем вадаёмаў, а проста будуем у цудоўным ландшафце маркотныя, шэрыя дамы, — мы таксама парушаем гармонію, якая існуе ў прыродзе. Яскравым прыкладам гэтаму можа служыць будынак дома адпачынку на возеры Нарач, які зусім не стасуецца з чароўным песенным наваколлем.

Не так даўно Вярхоўны Савет СССР даручыў Савету Міністраў СССР распрацаваць мерапрыемствы па далейшым ўзмацненні аховы прыроды і паляпшэнні выкарыстання прыродных рэсурсаў, у тым ліку і распрацоўку горадабудаўнічых нарматываў, якія забяспечаць максімальнае аздараўленне знешняга асяроддзя ў прамысловых і адміністрацыйных цэнтрах. Вярхоўны Савет падкрэсліў, што пры вырашэнні горадабудаўнічых праблем і забудове сельскай мясцовасці не заўсёды аддаецца належная ўвага стварэнню аптымальных умоў для працы, быту і адпачынку насельніцтва. Ёсць выпадкі безгаспадарчых адносін да асноўнага багацця краіны — зямлі, факты нерацыянальнага выкарыстання сельскагаспадарчых і лясных угоддзяў, няправільнай эксплуатацыі вадасховішчаў.

Маштабы нашага будаўніцтва пастаянна растуць. У перспектыве яны сапраўды велізарныя. Таму неабходна выразна ўсвядоміць, што ландшафтная архітэктура — катэгорыя горадабудаўнічая, што яна вельмі важная галіна нашай штодзённай працы па каардынацыі, вывучэнні і вырашэнні праблем асваення і аховы акаляючага прыроднага асяроддзя. Мы павінны ў сваёй штодзённай працы ўлічваць не толькі эканамічныя, але і сацыяльныя аспекты развіцця грамадства.

Хто ж заклікаемы вырашаць гэтыя пытанні?

Да апошняга часу пытаннямі фарміравання ландшафту горада, прыгарадных зон, зон адпачынку і курортных раёнаў займаліся або інжынеры зялёнага будаўніцтва, мала падрыхтаваныя ў галіне горадабудаўніцтва і архітэктуры, або архітэктары, якія недастаткова ведалі ландшафтазнаўства і іншыя неабходныя дысцыпліны. У сувязі з рашэннем Вярхоўнага Савета СССР палепшыць падрыхтоўку спецыялістаў у галіне прыродазнаўства і аховы прыроднага асяроддзя, неабходна зноў паставіць пытанне аб арганізацыі ў Беларусі падрыхтоўкі ландшафтных архітэктараў, якія змаглі б кваліфікавана вырашаць усе пытанні, пачынаючы з раённай планіроўкі і арганізацыі ландшафтаў рэспублікі ў цэлым і заканчваючы садова-паркавым мастацтвам.

Асновай архітэктурна-горадабудаўнічай практыкі павінна з'явіцца прагназіраванне з'яў і працэсаў, якія выклікаюць змены ў акаляючым асяроддзі. А гэта патрабуе сумесных намаганняў спецыялістаў розных галін навукі і практычнай дзейнасці — архітэктараў і сацыёлагаў, інжынераў і эканамістаў, географаў, біёлагаў, гісторыкаў, правазнаўцаў.

**Ала СЫЧОВА,**
кандыдат архітэктуры, дацэнт кафедры горадабудаўніцтва БПІ.

*З НАТУРЫ І НЕ ТОЛЬКІ...*



П. Крахалёў.



А. Забораў.



А. Семілетаў.

Сяброўскія шаржы З. ПАЎЛОЎСКАГА.

# ГАНАРОВЫ АБАВЯЗАК КУЛЬТАСВЕТРАБОТНІКА

*Калегія Міністэрства культуры БССР і прэзідыум БРК прафсаюза работнікаў культуры прынялі пастанову, у якой адобрылі ініцыятыву Абідавіцкага сельскага дома культуры і Абідавіцкай сельскай бібліятэкі Быхаўскага раёна, якія прынялі сацыялістычныя абавязацельствы па далейшаму ўмацаванню сувязі з калгаснай вытворчасцю і ўдасканаленню культурна-масавай работы.*

*Абласным і Мінскаму гарадскому ўпраўленням, гарадскім і раённым аддзелам культуры рэкамендавана шырока выкарыстаць ініцыятыву культасветработнікаў Абідавіцкага сельскага Савета ў дзейнасці культасветустаноў.*

*Ніжэй змяшчаем тэкст сацыялістычнага абавязацельства работнікаў Абідавіцкага дома культуры і сельскай бібліятэкі.*

Сёлетні год — рашаючы год пяцігодкі. Партыя і ўрад заклікаюць савецкі народ даць больш прадукцыі, лепшай якасці і атрымаць яе з найменшымі затратамі. Наш калгас «XVIII партз'езд» рашыў дасягнуць у бягучым годзе новых поспехаў ва ўсіх галінах гаспадаркі. Мы лічым сваім ганаровым абавязкам усімі сродкамі культасветработы дапамагчы працаўнікам вёскі паспяхова выканаць сацыялістычныя абавязацельствы 1973 года, зрабіць сельскі дом культуры, сельскую бібліятэку другім родным домам механізатара, палявода, жывёлавода, спецыяліста сельскай гаспадаркі, усяго насельніцтва Абідавіцкага сельсавета.

## ПА СЕЛЬСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

Сумесна з праўленнем калгаса і спецыялістамі сельскай гаспадаркі ў памяшканні сельскага дома культуры да ліпеня г. г. стварыць кабінет перадавога вопыту і сельскагаспадарчых ведаў.

Адкрыць універсітэт сельскагаспадарчых ведаў і перадавога вопыту.

Рэгулярна абнаўляць нагляднyю агітацыю. Аформіць серыю плакатаў на эканамічныя тэмы: «Што дае калгасу павелічэнне прадукцыйнасці працы ў паляводстве, жывёлагадоўлі, аб зніжэнні сабекошту прадукцыі, эканоміі і ашчаднасці».

Сумесна з камсамольскай арганізацыяй штомесячна выпускаць «Камсамольскі пражэктар», светлагукавую газету «Калгасныя навіны», у якіх шырока асвятляць дзейнасць працоўных калектываў.

У другім квартале сумесна з пярвічнай арганізацыяй таварыства «Веды» арганізаваць кіналекторый на тэму «Рашаючы год пяцігодкі», чытанне цыкла лекцый на сельскагаспадарчую тэматыку.

Штотыднёва праводзіць лекцыі і даклады на грамадска-палітычныя, інтэрнацыянальна-патрыятычныя, эканамічныя, сельскагаспадарчыя і іншыя тэмы. Сумесна з бібліятэкай — не менш 2—3 тэматычных вечароў, вусных часопісаў, вечароў пытанняў і адказаў і іншых масавых мерапрыемстваў, у тым ліку адзін вечар ушанавання перадавікоў.

Весці далейшую работу па стварэнню летапісу калгаса «XVIII партз'езд». Шырэй прыцягнуць да гэтай справы актыў дома культуры.

Сумесна з педагагічным калектывам Абідавіцкай сярэдняй школы правесці ў маі вечар сустрэчы выпускнікоў з перадавікамі вытворчасці на тэму «Выбіраю дарогу ў жыццё».

Распрацаваць сцэнарый і правесці ў маі сумесна з шэфамі — будаўнічым трэстам № 12 г. Магілёва — свята Сярпа і Молата, у чэрвені — свята Вясны, у верасні — свята Ураджаю.

Сумесна з сельскім Саветам, камсамольскімі арганізацыямі калгаса і сярэдняй школы сістэматычна праводзіць у доме культуры ўрачыстую рэгістрацыю шлюбаў, нованароджаных, вечары пасвячэння ў хлебаробы, провады на пенсію, у рады Савецкай Арміі.

Весці далейшую работу па мастацкаму афармленню кутка клуба «Шукальнікі». Сістэматычна папаўняць яго матэрыяламі аб рэвалюцыйных і баявых подзвігах аднавяскоўцаў. Арганізаваць у чэрвені сумесна з камсамольскай арганізацыяй калгаса і навучэнцамі школы паход па баявых мясцах асобага партызанскага злучэння «Трынаццаць» Героя Савецкага Саюза Сяргея Уладзіміравіча Грышына. Па матэрыялах пахода аформіць фотаальбом.

Правесці ў сакавіку вечар сустрэчы з былым партызанам асобага злучэння «Трынаццаць», рэдактарам раённай газеты «Маяк Прыдняпроўя» Г. Барысавым.

Распрацаваць сцэнарый і правесці ў маі тэматычны вечар сустрэчы з удзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны — жыхарамі вёскі Абідавічы.

Падрыхтаваць для пастаяннай агітацыйна - мастацкай брыгады «Дняпро» тэматычную праграму «Іх подзвіг авеяны бессмяротнасцю» і выступіць у маі-чэрвені ў вёсках Вець, Сялец, Іскань, пасёлку Дружба.

Весці далейшую работу па ўмацаванню сувязей з моладдзю сяла, якая служыць у радах Савецкай Арміі. Арганізаваць у лістападзе тэматычны вечар «Дом, у якім чакаюць салдата».

З мэтай лепшай арганізацыі адпачынку насельніцтва звярнуць асаблівую ўвагу на правядзенне масавых мерапрыемстваў: вечароў адпачынку моладзі, вечароў сустрэч, баляў, выступленні прафесійных і самадзейных калектываў, спартыўных спаборніцтваў у святочныя і выхадныя дні.

Аказаць метадычную і практычную дапамогу Палянінавіцкаму сельскаму клубу.

Разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва паміж клубамі сельскага Савета за званне «Клуб выдатнай работы».

## ПА СЕЛЬСКАМУ ДОМУ КУЛЬТУРЫ

Весці сярод чытачоў сістэматычную і дзейсную прапаганду рашэнняў Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, аказваць дапамогу партыйнай, камсамольскай арганізацыям і праўленню калгаса ў ідэйна-палітычным выхаванні працоўных, мабілізацыі іх на выкананне вытворчых планаў і сацыялістычных абавязацельстваў.

Абапіраючыся на актыў, у перыяд вясенне-палявых работ і ўборачнай кампаніі палепшыць абслугоўванне кнігай хлебаробаў паляводчых брыгад.

Прыняць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні вечароў ушанавання перадавікоў працы.

На жывёлагадоўчых фермах вёсак Абідавічы, Вець, Старое Сяло сумесна са спецыялістамі сельскай гаспадаркі падрыхтаваць і правесці абмеркаванне «Вучэбнай кнігі даяркі».

Сумесна з сельскім домам культуры раз у два месяцы праводзіць адно мерапрыемства: літаратурна-музычныя вечары, вусныя часопісы, канферэнцыі чытачоў, дыспуты на актуальныя тэмы сучаснасці.

Перагледзець і ўдакладніць план абслугоўвання зоны бібліятэкі. Арганізаваць пункт выдачы кніг у Старым Сяле, палепшыць якасць работы перасоўкі ў вёсцы Вець, замацаваць за кніганошамі 38 жыхароў састарэлага ўзросту пасёлка Кашалёўка.

У мэтах паляпшэння работы з падлеткамі стварыць пры сельскай бібліятэцы дзіцячы гакой, забяспечыўшы яго мэбляй, неабходнымі нагляднымі дапаможнікамі, літаратурай. Штоквартальна праводзіць сустрэчы школьнікаў з дзеячамі літаратуры і мастацтва, былымі франтавікамі, партызанамі, перадавікамі вытворчасці, ветэранамі камсамола.

Улічваючы, што сельская бібліятэка з'яўляецца метадычным цэнтрам усіх бібліятэк сельсавета, пераабсталяваць і пашырыць метадычны куток, папоўніць яго неабходнай літаратурай і нагляднымі дапаможнікамі. Штоквартальна падводзіць вынікі сацыялістычнага спаборніцтва бібліятэк сельсавета за званне «Бібліятэка выдатнай работы».

Сумесна з раённай бібліятэкай арганізаваць планавае камплектаванне Ісканскай, Палянінавіцкай сельскіх бібліятэк. Прыняць меры да своечасовага і поўнага выкарыстання сродкаў, выдзеленых на камплектаванне кніг сельскім Саветам і калгасам.

Палкаўскай бібліятэцы, ператоранай з прыклубнай у самастойную сельскую, аказаць дапамогу ў стварэнні алфавітнага і сістэматычнага каталогаў, у камплектаванні кніжнага фонду.

Аказаць дапамогу Абідавіцкай і Старасельскай школьным бібліятэкам у складанні планаў работы, звярнуўшы ўвагу на патрыятычнае выхаванне і работу па прафарыентацыі школьнікаў.

Правесці ў трэцім квартале з удзелам Сялецкай, Ісканскай, Палянінавіцкай, Палкаўскай сельскіх бібліятэк, Абідавіцкай, Старасельскай школьных бібліятэк канферэнцыю чытачоў па кнізе «Салдатамі былі ўсе».

З мэтай паляпшэння работы бібліятэкі, як школы перадавога вопыту па прапагандзе беларускай і краязнаўчай літаратуры, перагледзець і ўдакладніць з раённай бібліятэкай праграму заняткаў і графік вучобы бібліятэкараў раёна.

●

Мы звяртаемся да ўсіх работнікаў сельскіх клубаў, дамоў культуры, бібліятэк з заклікам умацоўваць творчыя сувязі з вытворчымі калектывамі, шырока выкарыстоўваць разнастайныя формы работы па асвятленню ходу выканання сацыялістычных абавязацельстваў 1973 года — рашаючага года дзевятай пяцігодкі, усямерна паляпшаць культурнае абслугоўванне працаўнікоў сяла.

# ПЕРАД МІНСКІМ ГЛЕДАЧОМ

*ДЭКАДА САМАДЗЕЙНАГА ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА*

Штодзень глядзельная зала тэатра юнага гледача перапоўнена. Мінчане з цікавасцю знаёмяцца з спектаклямі народных тэатраў рэспублікі.

— Прайшлі юбілейныя фестывалі харавых і танцавальных калектываў,— сказаў, адкрываючы дэкаду самадзейнага тэатральнага мастацтва, намеснік міністра культуры БССР Р. Г. Мачулін.— Агляды адбыліся ў калгасах, саўгасах, на прадпрыемствах і будоўлях, у навучальных установах. У іх прыняло ўдзел да паўмільёна артыстаў-аматараў. У рэспубліцы за гэты час было дадзена звыш 800 тысяч канцэртаў. І вось — апошняя стадыя юбілейнага фестывалю: дэкада самадзейнага тэатральнага мастацтва. Свае лепшыя спектаклі прывезлі ў Мінск народныя тэатры рэспублікі.

Адкрылася дэкада спектаклем па драме Я. Коласа «Вайна вайне» ў выкананні старэйшага ў рэспубліцы народнага тэатра палаца культуры трактарнага завода. Рэжысёр - пастаноўшчык — заслужаны работнік культуры БССР А. Бляеў, мастак У. Кульваноўскі, кансультант народны артыст СССР П. Малчанаў.

...Ціхая сельская раніца. Журботна туляцца адна да адной пахілыя сялянскія хаты. Чуецца працяглая тужлівая песня. Прыслухайцеся да яе, і вы пачуеце вялікую крыўду прыгнечанага народа. Але спакой у вёсцы ўяўны. Ён раптам парушаецца страшэнным словам: «вайна»...

За душу кранаюць і па-сапраўднаму хвалююць масавыя сцэны. Спектакль апавядае, як паступова расце рэвалюцыйная свядомасць сялян, апранутых у салдацкія шынялі.

У спектаклі заняты артысты тэатра — шліфавальшчык М. Шутаў, стропальшчык Г. Куцькін, эканаміст І. Годліна, токар М. Варывода, тэхнік - канструктар Т. Тускаль, работніца завода А. Хадатовіч і многія іншыя. Усіх іх яднае вялікая любоў да сцэны.

— Мне 19. З іх я ўжо шэсць гадоў аддала самадзейнаму тэатру, — расказвае Ала Хадатовіч. — Кожная рэпетыцыя — вялікая радасць і вялікія пакуты, бо гэта заўсёды адкрыццё новага...

Спектакль паводле камедыі А. Астроўскага «Лес» паказаў народны тэатр палаца культуры прафсаюзаў. Рэжысёр-пастаноўшчык А. Карсакоўскі, афармленне мастака М. Кургановіча. Уражаннямі аб гэтай рабоце артыстаў - аматараў дзеліцца мінчанка Л. Васюкевіч.

— Чалавек я немаладога веку. Маленства маё і юнацтва прайшло ў Падмаскоўі. Я памятаю Маскву купецкую, свет Васьмібратавых, Гурмыжскіх, іх крывадушных паслугачоў Буланавых. Мяне ўсхвалявала высакароднасць артыстаў Нешчасліўцава і Шчасліўцава, беднай дзяўчыны Аксінні. Іх ролі, як мне здалося, пераканальна выконвалі артысты - аматары І. Доўгіх, Г. Сінякоў, В. Пашкова.

На адказны паказ у Мінск Слонімскі народны тэатр прывёз драму У. Галубка «Ганка». Рэжысёр і мастак М. Варвашэвіч, музыка М. Гарабца. Вось што сказаў пра гэты спектакль прафесар Ул. Няфёд:

— Спектакль «Ганка» мне спадабаўся. Перададзена адчуванне эпохі. Ёсць жывыя вобразы, якія прымушаюць гледачача хвалявацца. Як пажаданне на далейшае: хацелася б, каб была большая ансамблевасць у спектаклі, у ігры акцёраў.

Поўны іскрыстай вясёласці, маладога запалу быў спектакль народнага тэатра палаца культуры Магілёўскага завода штучнага валакна. Калектыў прывёз камедыю А. Арбузава «Шасцёра любімых». Рэжысёр - пастаноўшчык — заслужаная артыстка РСФСР Э. Міхайлава, мастак В. Акулаў.

— Аляксей Арбузаў напісаў гэтую камедыю даўно, — уступае ў гаворку рэжысёр народнага тэатра мінскіх трактаразаводцаў А. Бляеў. — Але і сёння яна не страціла сваёй актуальнасці і надзённасці. Спектакль апавядае аб рабочым сумленні, аб спаборніцтве ў працы, аб дружбе і каханні. Запомніліся акцёры Раіса Шутава, Ніна Карташова, Браніслаў Чаркоўскі, Міхаіл Бацэвіч. Кранае іх улюбёнасць у мастацтва, шчырасць.

Мінчане ўбачылі яшчэ спектаклі «Трыбунал» па п'есе А. Макаёнка (Браслаўскі народны тэатр), «Вучань д'ябла» Б. Шоў (Барысаўскі народны тэатр).

Сёння са спектаклем паводле рамантычнай драмы Мустая Карыма «Краіна Айгуль» выступае Мазырскі народны тэатр.



Сцэна са спектакля «Шасцёра любімых» у пастаноўцы тэатра палаца культуры Магілёўскага завода штучнага валакна імя В. Куйбышава.



Сцэна са спектакля «Ганка» ў пастаноўцы Слонімскага народнага драматычнага тэатра. У ролі Ганкі— С. Варвашэвіч, Васіля — А. Цярэнін.

# ЛУНІНЕЦКІЯ ПЕЮНЫ

Успамінаецца першая сустрэча з хорам лакаматыўнага дэпо горада Лунінца. На сцэну выйшлі два дзесяткі мужчын рознага ўзросту ў форменнай вопратцы чыгуначнікаў. І вось яны ўжо спяваюць. Спяваюць натхнёна, радасна...

Толькі вялікай любоўю да песні можна вытлумачыць тое, што машыніст ці яго памочнік пасля дваццацігадзіннай працоўнай вахты, пасля доўгіх, нярэдка вельмі нялёгкіх кіламетраў чыгуначнага маршруту ідзе на рэпетыцыю. Рэпетыцыя ніколі не зрываецца, хоць, здаецца, на яе могуць прыйсці толькі 7—8 чалавек. Тады кіраўнік хору Яўген Куфайкін займаецца з харыстамі індывідуальна. А работы хапае — хор жа чатырохгалосы.

За доўгія гады свайго існавання хор дэпоўцаў асвоіў не адзін дзесятак песень. Тут былі і рускія, і ўкраінскія, і літоўскія...

Але аснову рэпертуару складаюць песні роднага краю. Асабліва ўдаюцца калектыву беларускія народныя песні. І дзе ні выступаў бы хор — у Мінску, Брэсце, Баранавічах, усюды народная песня сустракалася слухачамі вельмі прыхільна.

**С. ЛАЎШУК.**

# ГОЛАС ЛЕТУЦЕННЫ, МУЖНЫ, ШЧОДРЫ

*ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ С. РАХМАНІНАВА*



**Першага красавіка спаўняецца сто гадоў з дня нараджэння аднаго з буйнейшых прадстаўнікоў рускага класічнага мастацтва — кампазітара, піяніста і дырыжора Сяргея Васільевіча Рахманінава.**

**З нагоды знамянальнай даты карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» Л. Крушынская звярнулася да адказнага сакратара праўлення Саюза кампазітараў БССР, заслужанага дзеяча мастацтваў рэспублікі Генрыха Вагнера з некалькімі пытаннямі.**

— *Генрых Матусавіч, у чым адчуваецца ўплыў музыкі Рахманінава на творчасць беларускіх кампазітараў?*

— Перш за ўсё, Рахманінаў — адзін з апошніх рускіх кампазітараў-класікаў, якія стваралі музыку ў першай палове XX стагоддзя. А наша беларуская музычная культура — кампазітарская і выканаўчая — увабрала ў сябе вялікія традыцыі рускай класічнай музыкі, значыцца, і тое лепшае, што падарыў свету Рахманінаў. Калі гаварыць больш канкрэтна, дык геній Рахманінава-піяніста, які цудоўна спалучаўся з выдатнай кампазітарскай дзейнасцю, аказаў моцны ўплыў на развіццё сусветнай творчасці для фартэпіяна. Прынамсі, у нас на Беларусі гэты ўплыў непасрэдна адчуваецца на такіх яркіх творах, як Першы канцэрт для фартэпіяна з аркестрам і Фантазіі на беларускую тэму для такога ж складу выканаўцаў, напісаныя Д. Камінскім; як цыклы фартэпіянных п'ес А. Багатырова, У. Алоўнікава, дзе адчуваецца жыватворная плынь піянізма рахманінаўскіх эцюдаў-карцін і прэлюдый. Тое ж трэба сказаць і пра цудоўнае выкарыстанне партыі фартэпіяна ў рамансах Анатоля Васільевіча Багатырова — сапраўды, як і ў С. Рахманінава, у гэтых рамансах гучыць дуэт голасу і інструмента.

— *Вы гаварылі пра ўплыў на беларускую музыку Рахманінава-кампазітара. А ці ёсць таксама нейкі ўплыў на нашу музыку Рахманінава-выканаўцы.*

— Адзначу, што адзін з заснавальнікаў беларускай вакальнай школы А. Баначыч, у свой час буйнейшы рускі спявак-тэнар, меў шчасце спяваць у спектаклях Вялікага тэатра пад кіраўніцтвам непераўзыдзенага опернага дырыжора Рахманінава. Нельга не адзначыць, што опера «Алека» ў рэпертуары Беларускага опернага тэатра таксама далучала да пэўных «таямніц» пеўчай культуры нашых артыстаў. А ці можна забыць, што на творах Рахманінава розных ступеняў цяжкасцей выхоўваюцца навучэнцы Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і музычных вучылішчаў рэспублікі.

— *Рахманінаў наведваў калісьці Беларусь. Што вы можаце сказаць пра гэта?*

— Нам дарагія нават самыя кароткія, эпізадычныя кантакты з вялікімі музыкантамі. Так і з Рахманінавым. Гэта адбылося на пачатку творчай дзейнасці Сяргея Васільевіча, калі ён, яшчэ мала вядомы дваццацідвухгадовы піяніст, выступаў з канцэртамі ў Мінску. Тагачасны тутэйшы друк адзначаў пасля выступленняў, што хоць Рахманінаў і вельмі малады, але, безумоўна, перспектыўны музыкант, які абяцае стаць выдатным мастаком.

— *Вядома, што музыка Рахманінава карыстаецца вялікай любоўю людзей розных пакаленняў. Мабыць, ёсць у ёй нейкае непаўторнае мастацкае хараство, што надае гэтай музыцы асаблівую прывабнасць і чароўнасць?*

— На працягу ўсяго жыцця, нават у эміграцыі, Рахманінаў праносіў у сэрцы запаветны вобраз Радзімы. Гэтае сэрца было поўнае «матываў» рускай прыроды і народных песень. Калі ж надышлі трагічныя падзеі другой сусветнай вайны, кампазітар паказаў сябе сапраўдным патрыётам Расіі. Ён, ужо стары, хворы чалавек, наладзіў вялікае канцэртнае падарожжа і ўвесь ганарар перавёў у фонд дапамогі Чырвонай Арміі. У час канцэртнага турнэ Сяргей Рахманінаў і памёр.

У гэтыя дні, калі ўвесь свет адзначае знамянальную дату, на радыёхвалях і ў канцэртных залах, на клубных эстрадах і на кватэрах меламанаў — усюды гучыць рахманінаўскі голас. Так — голас! І ён — бессмяротны...

# ПЕРШАПРАХОДЦА

*80 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЗАСЛУЖАНАГА ДЗЕЯЧА МАСТАЦТВАЎ БССР І. ГІТГАРЦА*

Грамадскасць Беларусі ў маі бягучага года будзе адзначаць знамянальную дату ў культурным жыцці рэспублікі — 40-годдзе Дзяржаўнага акадэмічнага ордэна Леніна Вялікага тэатра оперы і балета БССР. Па праву ганарымся мы цудоўным роcквітам першага ў гісторыі беларускага народа музычнага тэатра; з вялікай павагай называем артыстаў і творчых кіраўнікоў яго калектыву, што сёння з'яўляюцца носьбітамі перадавых якасцей нашага савецкага мастацтва.

Але сённяшнія здзяйсненні Беларускага тэатра оперы і балета ў многім і многім абавязаны плёну дзейнасці тых майстроў нашай культуры, якія закладвалі яшчэ першыя цагліны ў падмурак гэтага тэатра ў самым пачатку 30-х гадоў. Пад «нумарам адзін» тут варта назваць Ілью Аляксандравіча Гітгарца.



Гэта быў чалавек вялізнага музычнага таленту. Каб зразумець маштаб яго магчымасцей скрыпача, трэба нагадаць, што выдатны рускі дырыжор, дырэктар Маскоўскай кансерваторыі В. Сафонаў пасля свайго канцэрта ў Пецярбургэ, у якім студэнт кансерваторыі Гітгарц выканаў у сімфанічнай сюіце «Шэхеразада» М. Рымскага-Корсакава партыю салірунчай скрыпкі, падарыў маладому выканаўцу свой партрэт з надпісам: «Вялікаму музыканту І. А. Гітгарцу за сола ў Шэхеразадзе. 11 студзеня 1914 года». Калі на выпускным экзамене малады выканаўца сыграў скрыпічны канцэрт А. Глазунова, аўтар твора, буйнейшы рускі кампазітар, мастак з сусветным імем, у прысутнасці камісіі выказаў яму свае захапленні і рэкамендаваў перадаць у карыстанне таленавітаму музыканту скрыпку з калекцыі інструментаў старажытных італьянскіх майстроў.

Дадамо, што скрыпач Гітгарц быў партнёрам па ансамблю буйнейшага піяніста С. Барэра, прымаў удзел як саліст у гастрольных падарожжах сусветна вядомай антрэпрызы С. Дзягілева. Па ўспамінах народнага артыста Савецкага Саюза кампазітара Ю. Шапорына, яго кансерваторскі сябра Ілья Гітгарц, які атрымліваў стыпендыю ад Глазунова, адначасова займаючыся па класах скрыпкі ў Л. Ауэра і С. Каргуева і па тэорыі кампазіцыі ў Н. Сакалова, належаў да ліку самых яркіх выхаванцаў Петраградскай кансерваторыі.

Калі ў 1918 годзе І. Гітгарц закончыў кансерваторыю, ён на працягу некалькіх год працаваў у Палтаве ў якасці галоўнага дырыжора першага савецкага сімфанічнага аркестра імя Луначарскага і першага савецкага тэатра імя Гогаля (у склад якога ўваходзіла оперная трупа). Дарэчы, тут пачалося яго знаёмства і сяброўства з Іванам Казлоўскім, які ў Палтаве ўпершыню звярнуў на сябе ўвагу грамадскасці і спецыялістаў незвычайным багаццем голасу і тут пачаў шлях у прафесійным мастацтве. Потым Ілью Аляксандравіча запрашаюць галоўным дырыжорам аркестра ў Харкаў, у Ленінградскую оперу Народнага дома.

З 1926 года ён пачынае працаваць загадчыкам музычнай часткі і дырыжорам арганізаванага ў Віцебску БДТ-2, вядомага цяпер тэатра імя Якуба Коласа. Калектыў гэты з першых дзён свайго існавання вызначаўся музычнасцю спектакляў. І заслуга тут не толькі таленавітай трупы, якая тады склалася, але і загадчыка музычнай часткі БДТ-2, які праводзіў вялікую выхаваўчую работу ў трупе.

Імя І. Гітгарца з таго часу робіцца добра вядомым у рэспубліцы, і калі прымаецца пастанова аб адкрыцці Беларускай дзяржаўнай студыі оперы і балета — вучэбна-вытворчай мастацкай установы, якая была пераходнай ступенню да стварэння першага ў жыцці беларускага народа музычнага тэатра, — яе кіраўніком прызначаецца Ілья Аляксандравіч.

Са сваімі студыйцамі ён атрымаў магчымасць пазнаёміцца яшчэ тады, калі быў у 1927—28 гадах запрошаны ў Беларускі дзяржаўны музычны тэхнікум у Мінску для ажыццяўлення спектакляў «Севільскі цырульнік» Д. Расіні і «Фауст» Ш. Гуно. Так былыя студэнты тэхнікума Л. Александроўская, Т. Баначыч, М. Пігулеўскі, І. Балоцін, М. Дзянісаў, Д. Кроз, С. Друкер і іншыя былі адабраны ў студыю і пачалася іх падрыхтоўка да дзейнасці на вялікай тэатральнай сцэне. Разам са сваімі творчымі паплечнікамі Г. Пятровым і Л. Крамарэўскім мастацкі кіраўнік студыі правёў вялікую работу, каб выканаць заданне партыі і ўрада па адкрыццю ў 1933 годзе тэатра оперы і балета. Падрыхтаваныя спектаклі «Залаты пеўнік» М. Рымскага-Корсакава, «Кармэн» Ж. Бізэ, «Яўгеній Анегін» П. Чайкоўскага і іншыя атрымалі прызнанне грамадскасці, далі магчымасці рэарганізаваць студыю ў тэатр, у якім І. Гітгарц зноў быў прызначаны дырэктарам і мастацкім кіраўніком. Калі ў чэрвені 1933 года яму, аднаму з першых у рэспубліцы, прысвоілі ганаровае званне заслужанага артыста БССР, у пастанове Савета Народных Камісараў Беларусі было сказана, што гэтую годнасць яму надаюць «за таленавітую дзейнасць і энергічную работу ў справе стварэння Беларускага опернага тэатра».

Да 1936 года І. Гітгарц кіраваў гэтым калектывам. Ён здолеў згуртаваць таленавітую групу салістаў, у большасці выхаванцаў студыі, прыцягнуць да пастаноўкі спектакляў такіх буйных майстроў, як рэжысёры Б. Мардвінаў, П. Златагораў, Б. Норд, балетмайстар Ф. Лапухоў, мастакі П. Вільямс і М. Бобышаў. Высокакваліфікаванымі былі ў тэатры хор і аркестр, разгарнуліся таленты першых артыстаў балета С. Дрэчына, Я. Вяпрынскага, Ю. Хераска, Г. Шчолкінай і іншых.

Ілья Аляксандравіч вярнуўся на Беларусь у 1947 годзе. Да гэтага часу ён узначальваў оперныя тэатры і сімфанічныя аркестры ў Іванаве і Душанбе, Маскве і Ташкенце, Пярмі, Куйбышаве, Фрунзе. І ўсюды грамадскасць, спецыялісты адзначалі, што ён «валодае вялікім мастацкім майстэрствам і з'яўляецца адным з самых першакласных дырыжораў у нашай краіне» (народны артыст РСФСР і Узбекскай ССР кампазітар С. Васіленка), што «спалучаючы ў сваёй асобе бліскучага, тэмпераментнага оперна - сімфанічнага дырыжора, выдатнага знаўцу камернай музыкі і выключнага, патрабавальнага педагога, ён здолеў атрымаць прызнанне і аўтарытэт усюды, дзе яму давялося працаваць за гады сваёй музычнай дзейнасці» (прафесар Маскоўскай кансерваторыі С. Яўсееў).

Гэтыя характарыстыкі, а іх можна прывесці безліч, пацвердзіліся ў шматграннай дзейнасці І. Гітгарца пасля яго вяртання ў Мінск. Музычны кіраўнік нацыянальных спектакляў «Князь - возера» В. Залатарова, «Салавей» М. Крошнера, лепшых узораў рускай класікі — у канцы 40-х гадоў, выхавацель цэлай плеяды будучых оперных спевакоў (М. Ворвулеў, В. Глушакоў, Н. Гусельнікава, Т. Шымко, Р. Асіпенка і г. д.) у кансерваторскім класе, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, дацэнт І. Гітгарц да апошніх дзён свайго жыцця быў у асяроддзі музыкантаў «вышэйшым суддзёй» па пытаннях опернага і сімфанічнага мастацтва.

**І. НІСНЕВІЧ.**

# ТАКІМ ЁН ЗАСТАЎСЯ...

*50 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ А. РЫЛЬКО*



ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГОД — гэта многа, калі табе дваццаць. Алесю Рылько тады, калі ягоная рука не магла ўжо крануцца пяра, пяцідзесяці яшчэ не было. Смерць застала яго ў самым плённым творчым узросце, і, несумненна, ён шмат яшчэ здолеў бы напісаць. На яго пісьмовым стале застаўся незавершаным раман. Пісаўся ён пакутліва, у роздуме; і таму, што гэта быў наогул першы для аўтара раман, і таму, што праблемы, закранутыя ў ім, былі складанымі, па-новаму пастаўленымі часам. У самім сюжэце знарачыта новага нічога не было, але ў звычайнасці, нават у падкрэсленай звычайнасці якраз і была цяжкасць. Трэба было напісаць пра тое, як у калгас пасля заканчэння інстытута прыходзіць былы франтавік. Алесь Рылько сам быў партызанам славутай заслонаўскай брыгады, за ягонымі плячмі стаяў вялікі жыццёвы вопыт, памножаны на бліскучы пісьменніцкі талент. І ўсё ж і складаўся, і пісаўся раман надзвычай цяжка.

Аляксей Іванавіч не тое, каб нерваваўся праз гэта, але, памятаю, яго турбавала: а раптам вось, — чым не жартуе нячысцік! — возьме ды і напішацца ніжэй яго магчымасцей? Гэтага, вядома, ён не хацеў. Перад гэтым перажыў ён якраз высокі творчы ўзлёт: нечакана ўразіў чытачоў высокапаэтычнымі «Мядовымі краскамі» — аповесцю для дзяцей, якая, як кожная па-сапраўднаму таленавітая рэч, была прачытана і дарослымі, — і нават раней за дзяцей: першая публікацыя яе была «палымянскай».

Журботны гэта абавязак — пісаць пра чалавека, якога ўжо няма, якога ты любіў і які, — чаму не прызнацца? — плаціў табе той жа мерай мужчынскай любові і дружбы.

Неяк не па-гарадскому высокі, з характэрным аблічам, якое непазбежна звяртала на сябе ўвагу, весела, энергічна гаваркі, па-народнаму дасціпны чалавек, які так многа ўзяў ад вясковага люду роднай яму Віцебшчыны. Жыццё ён любіў прагнай, патрабавальнай любоўю, гэта лёгка адчувалася і ў ягонай творчасці, заўсёды дакладна зарыентаванай на сучаснасць і не па-кан'юнктурнаму надзённай.

Акрамя пісьменніцкага, быў у яго яшчэ і яскравы журналісцкі талент. Ён любіў і ўмеў браць матэрыял «жыўцом», з першых рук, з самой гушчы жыцця. Нездарма так ахвотна ездзіў ён у камандзіроўкі, заўсёды падахвочваючы да гэтага і маладых. Бывала, сустрэне, пацікавіцца, што робіш, як пішацца, і абавязкова спытае, калі апошні раз выязджаў з горада. Ездзіць, трэба ездзіць, казаў ён, няма чаго заседжвацца ў гарадскіх мурах. Сюжэты і ўсё звязанае з імі, казаў ён, валяюцца, менавіта валяюцца на дарозе. Іх трэба толькі ўмець знаходзіць і падбіраць. Ну і дома, канечне, трэба бываць часцей.

Настаўнік ён быў строгі і патрабавальны, нават прыдзірлівы. Над старонкай рукапісу маладога аўтара мог сядзець літаральна гадзіну. Не заставаліся без увагі нават працяжнік ці коска. Спатыкнецца на недакладна пастаўленым слове, востра стрэльне ў цябе вокам, хітравата ўсміхнецца: думай, браце, думай, тут нешта ў цябе не так. А сам не спяшаецца падказаць.

Пра сябе ён казаў, што толькі яшчэ падступаецца да галоўнай сваёй кнігі. Што вялізны пласт выпакутаванага партызанскага жыцця застаецца пакуль амаль нечапаным у ягоным пісанні. А гэта ж тое, што ён ведае, можа, найлепш.

Так, ён шмат чаго не паспеў напісаць. І ўсё ж зрабіў многа. Надоўга застануцца жыць у родным слове лепшыя ягоныя апавяданні і гумарэскі, што так ярка свецяць дасціпам і выдумкай, каларытныя ягоныя персанажы і сярод іх — непаўторны Студанок у аблавушцы. І будзе вабіць да сябе рознакаляровы свет ягоных «Мядовых красак». А гэта ж не так і мала. І ў гэтым ён, празаік Алесь Рылько, застаўся жыць.

**Міхась СТРАЛЬЦОЎ.**

# ЮНЕСКА, і вывучэнне культуры славянскіх краін

Пачынаючы з 1971 г., ЮНЕСКА пачала ажыццяўленне праграмы даследавання славянскіх культур, у якой асаблівая ўвага надаецца іх сучасным аспектам, а таксама ролі розных народаў, у станаўленні славянскай культуры. У гэтай праграме прымаюць актыўны ўдзел беларускія, балгарскія, польскія, рускія, чэхаславацкія, украінскія і югаслаўскія вучоныя, а таксама славяназнаўцы з некаторых заходнееўрапейскіх краін.

У сучасны момант у рамках «славянскага праекта» ЮНЕСКА вядзецца інтэнсіўная работа па папулярызацыі славянскай культуры, па ўмацаванню міжнародных сувязей вучоных-славістаў славянскіх і неславянскіх краін, па пашырэнню даследчай дзейнасці ў галіне гісторыі культуры, літаратуры і мастацтва славянскіх народаў.

Кансультатыўная нарада экспертаў, праведзеная па ініцыятыве Сакратарыята ЮНЕСКА ў маі 1972 года ў Парыжы, намеціла шырокую праграму па асноўных напрамках праекта і выставіла цэлы шэраг канкрэтных прапаноў па яе рэалізацыі. Другая такая нарада, якая канкрэтызавала і ўдакладніла асноўныя пункты гэтай праграмы, адбылася ў верасні 1972 г. у Варшаве.

На працягу 1971—1972 гг. прыярытэт быў аддадзены вывучэнню славянскіх літаратур. Цэнтральным мерапрыемствам стаў міжнародны сімпозіум на тэму «Гуманістычнае і грамадскае значэнне славянскіх літаратур», які адбыўся ў Варшаве ў верасні 1972 г. У ім прынялі ўдзел вучоныя з 24 краін. Варшаўскі сімпозіум не насіў чыста літаратуразнаўчага характару; галоўная ўвага ўдзялялася аналізу ролі літаратуры ў развіцці культуры, грамадскай значымасці літаратуры і яе ўплыву на грамадства. Удзельнікі сімпозіума абмяркоўвалі таксама праблемы сувязі славянскіх культур з неславянскім светам, гістарычных сувязей асобных літаратур і іх уплыў за межамі ўласнай моўнай агульнасці. Вялікая ўвага была нададзена пытанням перакладаў і метадам іх паляпшэння.

У дакладах і паведамленнях асаблівае месца надавалася такім тэмам, як сувязь нацыянальных каштоўнасцей, якія атрымалі адлюстраванне ў літаратуры, з сусветнай спадчынай чалавецтва; значэнне класічнай рускай літаратуры і рэалістычнага рускага рамана; польскі рамантызм як фактар фарміравання ідэалогіі нацыянальнага вызвалення; нацыянальнае адраджэнне чэшскай, славацкай, сербскай, харвацкай і балгарскай літаратур; праблемы славянскага фальклору.

У 1973 г., разам з даследаваннямі ў галіне славянскай літаратуры, пачынаецца вывучэнне гісторыі славянскай культуры і мастацтва, у прыватнасці, такіх тэм, як «Славянскія культуры і працэс фарміравання славянскіх нацый (XVIII—XIX стст.)», «Узаемадзеянне славянскіх культур і іх сувязі з Усходам і Захадам (XIX ст.)», «Славянскія культуры і развіццё сусветнай культуры ў XX ст», «Сучасныя праблемы славянскіх культур». Па другой з гэтых тэм ужо ў 1973 г. плануецца міждысцыплінарная канферэнцыя (сумесна з балканістамі і арыенталістамі), прысвечаная праблемам культурных сувязей Балканскага паўвострава і Усходу.

Прыкметнае месца ў праекце ЮНЕСКА займаюць публікацыі, разлічаныя на шырокага чытача. Сярод іх, у першую чаргу, трэба адзначыць выпуск навукова-папулярных нарысаў у серыі «Выдатныя дзеячы славянскай культуры», падрыхтоўка якіх пачнецца ў 1973 г. У гэтым жа годзе будзе пачата работа над альбомам па славянскаму мастацтву. Абодва гэтыя выданні прадстаўляюць значную цікавасць, перш за ўсё для папулярызацыі славянскай культуры, азнаямлення шырокай грамадскасці іншых краін з мастацтвам славянскіх народаў. Гэтай жа мэце будзе служыць стварэнне дакументальнага кінафільма, прысвечанага культуры славянскіх краін.

«Навіны ЮНЕСКА».

# СПЯВАЕ ЗДЗІСЛАВА САСНІЦКАЯ

**Прыгожы моцны голас, талент і працавітасць, арыгінальная прыгажосць і чароўнасць — усё гэта дазволіла Здзіславе Сасніцкай стаць адной з папулярнейшых у Польшчы эстрадных спявачак.**



**Нягледзячы на ўсе гэтыя годнасці, ёй далёка не адразу ўдалося заваяваць сімпатыю шырокай публікі. Шэсць гадоў прайшло з часу яе першых крокаў на эстрадзе, перш чым яна была заўважана крытыкай. Папулярнасць прыйшла да яе нечакана для яе самой — і расла літаральна на вачах, з дня на дзень. А ўсё пачалося з песні «Мой дом», якую Сасніцкая з бляскам выканала тры гады назад на фестывалі польскай песні ў Аполі. Здавалася, гэтая песня (музыка Марэка Севена, словы Яна Залеўскага) напісана спецыяльна для яе. Яна дазволіла ёй прадэманстраваць усе годнасці яе гучнага, моцнага, з вялікім дыяпазонам голасу, яе інтэрпрэтатарскі талент. Сасніцкая пакарыла польскую публіку, была прызнана яе любіміцай, а праз два месяцы паўтарыла свой поспех, выступаючы з гэтай жа песняй на міжнародным фестывалі эстраднай песні ў Сопаце, дзе заваявала першую прэмію.**

**Поспехам спявачкі папярэднічалі гады карпатлівай работы над пастаноўкай голасу, вывучэннем мастацтва інтэрпрэтацыі; яна асвойталася з эстрадай паступова, на студэнцкіх фестывалях, у студэнцкіх клубах і г. д. Музычная ад прыроды, Здзіслава Сасніцкая паралельна з агульнаадукацыйнай школай скончыла сярэднюю музычную школу па класу раяля. І хоць у школе гаварылі аб яе матэматычных здольнасцях, а яна сама марыла аб фізічным факультэце, музыка ўзяла верх, і Здзіслава Сасніцкая паступіла ў кансерваторыю на... дырыжорскае аддзяленне. Да гэтага дня дырыжорства ўсё яшчэ застаецца мужчынскай прафесіяй, і крыху шкада, што Сасніцкая не папоўніла нешматлікую групу жанчын — дырыжораў... Вучоба дала ёй вельмі многа, з'явілася саліднай падрыхтоўкай для яе сённяшняй работы, аднак, калі ў 1968 годзе ёй уручылі жаданы дыплом, яна ўжо ведала, што яе прызванне — эстрадная песня.**

**Спяваць яна, па сутнасці, пачала вельмі рана, хаця спачатку глядзела на гэта, як на другарадны занятак. Першая прэмія на фестывалі студэнцкай песні ў Кракаве ў 1964 годзе пераканала Здзіславу ў яе прызванні.**

**Услед за поспехамі ў Аполі і Сопаце ў 1971 годзе пасыпаліся запрашэнні з-за мяжы. Сасніцкая выступіла на міжнародным фестывалі ў Растоку, на вядомым Канскім МІДЭМ-72, зрабіла турнэ па ГДР, ЗША і Савецкім Саюзе. На фестывалі ў Каракасе спявачка атрымала запрашэнне выступіць з канцэртамі ў Рыо-дэ-Жанейра, Мексіцы, а таксама ў радзе еўрапейскіх краін. Сярод апошніх поспехаў Здзіславы Сасніцкай — другое месца (з 46 удзельнікаў) на міжнародным фестывалі эстраднай песні ў Токіо ў лістападзе мінулага года. Прэміі былі ўдастоены таксама аўтары выкананай ёю песні «Няма далёкай дарогі», музыка Лешака Багдановіча, словы Збігнева Ставецкага.**

**Нягледзячы на частыя выступленні за мяжой, Здзіслава Сасніцкая не губляе кантакту з польскай публікай. Яна часта выступае па тэлебачанню і на канцэртах, запісвае новыя доўгаіграючыя пласцінкі і песні для радыё, узбагачае свой рэпертуар і ўдасканальвае майстэрства. Спявачка мела магчымасць пераканацца на ўласным вопыце, што толькі ў спалучэнні з велізарнай працай талент прыносіць дастойныя захаплення вынікі.**

«Польскі агляд».

# КАРФАГЕН ПАВІНЕН БЫЦЬ ВЫРАТАВАНЫ

*Легендарнай стала фраза «Карфаген павінен быць разбураны», якая прыйшла да нас з глыбінь стагоддзяў. А цяпер мы чуем заклік «Карфаген павінен быць выратаваны».*

*У мінулым годзе ЮНЕСКА звярнулася, па просьбе туніскага ўрада, з заклікам да ўсіх яе дзяржаў-членаў, да іх урадаў, да навуковых і грамадскіх устаноў і арганізацый дапамагчы намаганням, накіраваным на захаванне руін Карфагена.*

*На значнай частцы тэрыторыі гэтага легендарнага горада на беразе Міжземнага мора археалагічныя раскопкі яшчэ ніколі не праводзіліся. Таму велізарныя гістарычныя каштоўнасці яшчэ застаюцца пад зямлёю.*

*Правесці раскопкі і адначасова захаваць зону старажытнага горада — канчатковая задача міжнароднай кампаніі дапамогі Карфагену, якая пачалася ў мінулым годзе. Цяпер да паездкі ў Туніс у розных краінах рыхтуюцца буйныя археалагічныя экспедыцыі, а першыя раскопкі павінны быць пачаты ўжо ў гэтым годзе.*

*Але паўстаюць і больш тэрміновыя праблемы: карфагенскія помнікі пунічнай і рымскай эпох, якія ўжо выяўлены раней арехолагамі, пачалі паступова разбурацца. Неабходна ў бліжэйшы час пачаць работы па іх умацаванні, рэстаўрацыі, а таксама па расчыстцы ахоўных зон. Гэтыя пабудовы — тэатры, базілікі, вілы — прадстаўляюць цікавасць не толькі для спецыялістаў. Іх трэба падрыхтаваць да агляду турыстамі.*

«Навіны ЮНЕСКА».

**Калектыў рэдакцыі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» выказвае спачуванне супрацоўніцы рэдакцыі Рабчынскай Э. А. у сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю БРАТА.**

# ДАСЛЕДУЮЧЫ РЭЧАІСНАСЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4).**

ча з мясцінай, дзе ён некалі настаўнічаў, — з вёскай Завішына Лагойскага раёна закончылася шматлікімі цікавымі адкрыццямі, арыгінальнымі назіраннямі над характарамі людзей і сацыяльнымі з'явамі. Дарэчы нагадаць тут вобразы парторга калгаса «Шлях Леніна» З. Р. Аленчык, механізатараў бацькі і сына Бахараў, каваля Вялічкі, лесніка-пенсіянера дзядзькі Рыгора, настаўніка М. І. Мялешкі, адзначыць закранутыя праблемы новай методыкі выкладання прадметаў у школе, ачышчэння палёў ад камення, меліярацыі зямель і іншыя.

Але ў выніку выпадковага адбору матэрыялу нарыс адчувальна перагружаны нехарактэрнымі падзеямі, другараднымі дэталямі, часам ён набывае форму збітай «нарысавай каўбасы» (М. Кальцоў): колькі едзе нарысіст, столькі і накручвае яго «творчы спідометр» малюнкаў. Усё гэта, відавочна, вынік празмернага захаплення аўтара працяглымі матывамі ідылічных падарожжаў. І крыху шкада, што М. Вышынскі, валодаючы такімі здольнасцямі ствараць вобразы, з патоку сустрэч і ўражанняў рабіць па-мастацку цэльную карціну, не засяродзіў сваю ўвагу на чым-небудзь адным, хоць бы на лёсе настаўніцы Зінаіды Рыгораўны, жанчыны, якая перажыла за свой век столькі, што гэтага хапіла б на некалькі чалавечых жыццяў. Магчыма, маладога нарысіста напаткала б тады не меншая творчая ўдача, чым В. Якавенку, аўтара нарыса «Акно на плошчу» (з цыкла нарысаў «Каласы веку»), змешчанага ў першым нумары «Полымя за 1973 год.

Нарыс В. Якавенкі з'явіўся ў выніку паездкі ў Докшыцкі раён. У нарысе раскрыты цікавыя праблемы сацыяльна-эканамічнага і маральна-этычнага плана, створаны шэраг вобразаў. Але ўсё тут выглядае дасканала, выразна і трывала, бо падзеі і факты групуюцца вакол асноўнага стрыжня твора — вобраза Ульяны Феакціstaўны Каралінскай, па мужу Крышталевіч.

Цяжкі жыццёвы шлях прайшла Ульяна ад бяздольнай парабчанкі ў былой Заходняй Беларусі, партызанскай сувязной у час вайны з фашыстамі да пасады раённага кіраўніка. Аўтар цікава паказвае яе нялёгкі шлях да звычайнага чалавечага шчасця. У нарысе па-майстэрску паказана, як лепшыя рысы яе характару—душэўнасць, смеласць і самастойнасць у выбары рашэнняў выяўляліся не толькі ў грамадскай працы, але і ў інтымным жыцці, у каханні, у сям'і.

Самыя высокія дасягненні Ульяны Феакціstaўны на пасадзе старшыні калгаса імя Чапаева сталі магчымымі таму, што свае асабістыя імкненні, запатрабаванні ніколі не вызвалялі яе ад абавязку перад другімі людзьмі, ад асабістай адказнасці за іх лёс.

Значнай псіхалагічнай глыбіні дасягае В. Якавенка ў перадачы самых тонкіх зрухаў у душы гераіні ў працэсе станаўлення і гартавання яе як камуністкі, у працэсе пераадолення жыццёвых выпрабаванняў і нягод.

Вобраз Ульяны атрымаўся паўнакроўны, эмацыянальна выразны. Гэта партрэт нашага сучасніка, камуніста-ленінца, жыццё якога можа служыць прыкладам кожнаму з нас.

У творы В. Якавенкі няма надзвычайных акалічнасцей. Тут — дакументы будняў, сямейных і службовых сітуацый. Але менавіта яны і адлюстроўваюць час, настрой, погляды людзей. Сапраўднасць фактаў, назваў, імён заканамерна выклікала ў аўтара цягу да строгай хранікальнасці, амаль да дзённікавых запісак.

І ў той жа час аўтарскі домысел не замінае ў нарысе, плённа выяўляе сябе ў белетрызацыі біяграфічных звестак герояў.

Побач з творамі, пра якія ішла гаворка, звяртаюць увагу і нарысы на іншыя тэмы. Так, цікава чытаюцца нарысы—Р. Сабаленкі «Шчодрасць», у якім дадзены партрэт народнага артыста рэспублікі Уладзіміра Іосіфавіча Дзядзюшкі («Полымя», № 6, 1972 г.), М. Джагарава «Апошняя блакада» («Полымя», № 1, 1972 г.), дзе ўзнаўляюцца баявыя справы народных мсціўцаў Чэрвеньска-Пухавіцкай зоны, І. Скарынкіна «Танк «Беларускі нафтавік» («Полымя», № 2, 1973 г.) — расказ пра моцную шэфскую дружбу наваполацкіх нафтавікоў з воінамі адной з танкавых частей ЧБВА.

Такім чынам, нарыс разам з апавесцю і апавяданнем робіцца ўсё больш актыўным жанрам прозы ў нашай часопіснай перыёдыцы, усё больш адпавядае свайму прызначэнню першаадкрывальніка новага. Але каб яшчэ больш узмацняліся праблемныя і чалавеказнаўчыя функцыі нарыса, каб ён рухаў грамадскую думку, узбагачаў нас духоўным і гаспадарчым вопытам сучасніка, патрэбна шырэй прыцягваць да працы ў мастацка-дакументальным жанры сталых пісьменнікаў, настойліва выхоўваць аўтарскі актыў, даючы слова і самім наватарам вытворчасці, якія здольны пранікнёна расказаць аб сабе, сваіх справах, сваім гераічным часе.




## СПРАВЫ ПАЭТЫЧНЫЯ

— Няўжо вы не ведаеце, з якой нагоды я стаў паэтам?! Свой першы лірычны верш я напісаў пра здраду каханай.

— Праўду кажуць: адна бяда цягне за сабой другую.

●

— Скажыце шчыра, ці спадабаўся вам другі том маіх вершаў?

— Ведаеце, я заўважыў у ім вялікі прагрэс у параўнанні з першым.

— О, як гэта прыемна! У чым жа прагрэс?

— Ды ў тым, што ён на сто старонак танчэйшы за першы.

●

— Як вам спадабаліся мае вершы? — запытаў рэдактара паэт-пачатковец.

— Ведаеце, — адказаў рэдактар,— у вас ёсць два вершы, якіх не змаглі б напісаць ні Гейнэ, ні Пушкін.

— Няўжо?!. Якія ж?

— Адзін пра кіно, другі — пра радыё.

Пераклад з украінскай.

Жыві, Паэзія!
Мацуйся, Проза!
Грабе хай Крытыка
Паболей
да двара.
Прыняць спяшайся
Пушкінскую позу—
І сыпануцца
Іскры з-пад пяра!



*Даведка: партрэты Антона Бялевіча, Івана Грамовіча, Арсеня Ліса, Мар'яна Дуксы, Івана Бурсава, Аляксея Карпюка, Авяр'яна Дзеружынскага, Пятра Валкадаева, Міколы Арочкі, Эдуарда Валасевіча, Андрэя Макаёнка — не арыгінальныя, у свой час яны друкаваліся ў розных выданнях.*

Леанід КАРАЧУН

# МАЁ ЗНАЁМСТВА З ТЭЛЕБАЧАННЕМ,

або

## САМАЯ ГУМАННАЯ ПЕРАДАЧА



Маё першае знаёмства з тэлебачаннем было незабыўным.

З нашага цэха павінны былі перадаваць рэпартаж аб навуковай арганізацыі працы. Цэх наш невялікі, кожны квадратны метр так запоўнены, што паставіць дзе-небудзь грувасткія тэлевізійныя камеры практычна немагчыма.

Каб выратаваць перадачу, прыйшлося прыняць з цэха адзін слясарны станок, а слесара Ягорава, які працаваў на ім, часова перавесці на такарны ўчастак. Добра яшчэ, што ён некалі асвоіў сумежную прафесію токара. Свідравальны станок засланяў, на думку аператара, перспектыву цэха. Пасля доўгіх спрэчак вырашылі камеру ўстанавіць на спецыяльным мосціку. Для гэтага выкінулі яшчэ два слясарныя станкі, а слесараў Казлова і Вядзёркіна часова адправілі на ўборку тэрыторыі.

Неўзабаве высветлілася, што перашкаджае занадта зыркае святло з акна, а рэзкі гул расточнага станка забіваў шумавое афармленне. Давялося на вокны апусціць шторы, а станок, гул якога не ўпісваўся ў агульны шум цэха, спыніць.

Зрабілі мы і некаторую перастаноўку людзей на рабочых месцах. Паколькі наш лепшы токар Васіль Іванавіч Чуяшкоў, які павінен быў расказваць пра арганізацыю свайго рабочага месца, працуе ў самым далёкім кутку цэха, яго пераявлі на слясарны ўчастак, бліжэй да тэлекамер. Слесара Гваздзіліна, які пасля аванса хадзіў з падбітым вокам, адправілі сартыраваць дэталі, бо яго стол стаяў якраз насупраць камеры.

Хутка амаль трэць рабочых цэха займалася не сваёй справай або ўвогуле біла лынды.

— Слухайце, — з трывогай у голасе спытаў я рэдактара, — у рэпартажы пойдзе размова пра навуковую арганізацыю працы, а яе сёння якраз і няма.

Рэдактар спачувальна ўсміхнуўся.

— Не хвалюйцеся... Усё будзе ў парадку. Агульны малюнак работы цэха мы перададзім праз асобныя дэталі.

— Але павінен папярэдзіць, што сёння цэх плана не выканае...

— Гэта не страшна. Калі сённяшні дзень не тыповы для цэха, карыстайцеся лічбамі ўчарашняга.

У дзве трыццаць пачалася рэпетыцыя. Усё ішло добра, але ў дзве сорак выйшла са строю адна тэлекамера. Яе рамантавалі мінут дзесяць. Папправілі камеру — выйшаў са строю мікрафон.

Каля паловы чацвёртай прапала святло. Увесь цэх збегся да камер. З'явілася святло — паўгадзіны расстаўлялі рабочых па месцах.

Без чвэрці чатыры прапаў голас у Чуяшкова. Я пакуль трымаўся, але пасля таго, як шосты раз пачалі рэпетыцыю, пачаў заікацца.

Праўда, неўзабаве пасля гэтага стомлены, але бесклапотна ззяючы рэдактар нечакана аб'явіў:

— Усё о-кэй! Віншую з дэбютам! Сёння вы можаце ўбачыць сябе на блакітным экране роўна ў дваццаць нуль-нуль.

У дваццаць нуль-нуль усе мае родзічы і знаёмыя сядзелі каля тэлевізараў.

Я хваляваўся не менei, чым на здымках. Музычная застаўка настроіла крыху на ўрачысты лад. Потым, як быццам з гукаў самой музыкі, наплылі першыя кадры цэха. Напружаны працоўны рытм, як і заўжды ў нашым калектыве. Але раптам аднекуль з-за станкоў выплыла фігура Гваздзіліна. Рукі — у кішэнях, у роце — цыгарка, пад вокам — цёмны падцёк, на сківіцы — пластыр. Кадр знік, і буйным планам паказалі слесара Дронава, адпетага лодыра.

Не паспеў я застагнаць ад прыкрасці, як кадры замітусіліся, заскакалі, па ўсім экране папаўзлі палосы, потым — густы туман...

Мінуты праз тры экран засвяціўся зноў, і я ўбачыў самога сябе... Я заікаўся, мусіць, сіліўся нешта ўспомніць, а рэдактар стаяў насупраць, глядзеў некуды ўдалячынь і з'едліва пасміхаўся...

Кадр зноў замітусіўся, і на экране з'явілася застаўка «Па тэхнічных прычынах перадача адмяняецца».

Я хапіўся за сэрца, жонка — за аптэчку...

Раніцай мне пазваніў рэдактар з тэлебачання.

— Як маешся, стары? — ён ужо размаўляў са мной, як з добрым знаёмым. — Прабач, што так учора здарылася. Не мы вінаваты... Тэхніка, брат... Нічога не зробіш... Але ты не засмучайся. Можа, наша перадача мела і станоўчы бок.

— Не разумею намёку, — са злосцю працэдзіў я.

— Бачыш, людзі маглі хоць на некаторы час адарвацца ад экрана і заняцца хатнімі справамі. Ну, дык скажы пасля гэтага: ці не адыграла наша перадача і станоўчую ролю?

Яшчэ з дзяцінства я марыў прысвяціць сябе самай гуманнай справе. Словы рэдактара канчаткова вырашылі мой лёс. Вось ужо чатыры гады я працую на тэлебачанні.


Па тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Індэкс 63856 АТ 05641

Адрас рэдакцыі: 220600. ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.